ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 28 (2607)
ПЯТНІЦА
14
ліпеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



...І вось пракладзены першыя сляды і на гэтай усенароднай сцяжы — да яго, да Івана Дамінікавіча, да нашага Янкі Купалы!..

Стаіць ён на роднай зямлі, гэты помнік, просты і велічны, як сама паэзія народнага песняра.

У мінулым ужо клопаты і творчыя трывогі аўтараў манумента (дакладней — манументальнага комплексу) скульптараў А. Анікейчыка, А. Заспіцкага, Л. Гуміләўскага, архітэктараў Ю. Градава, Л. Левіна. У будучым — мільёны і мільёны слядоў на гэтай усенароднай сцяжы, слядоў і нашых з вамі нашчадкаў, усіх, у чыім сэрцы вечна будзе адгукацца Купалава слова...

Фота Ул. КРУКА.

**ВОЛЬНА І КРЫЛАТА ЛУНАЛІ НАД САВЕЦКАЙ БЕЛАРУССЮ Ў ГЭТЫЯ ЛІПЕНЬСКІЯ ДНІ СЛОВЫ ЯЕ НЕСМЯРОТНАГА ПЕСНЯРА — ВЯЛІКАГА ЯНКІ КУПАЛЫ. УСЯ РЭСПУБЛІКА, А З ЁЮ— УСЯ КРАІНА САВЕТАЎ— З ВЯЛІКІМ УЗДЫМАМ СВЯТКАВАЛА 90-ГОДДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАРОДНАГА ПАЭТА БЕЛАРУСІ. ГЭТА БЫЛО ВЯЛІКАЕ, ВОЛЬНАКРЫЛАЕ, САПРАЎДЫ ЎСЕНАРОДНАЕ СВЯТА. ТВОРЫ КУПАЛЫ ГУЧАЛІ Ў КЛУБАХ І НА ТЭАТРАЛЬНЫХ ПЛЯЦОЎКАХ, У ПАРКАХ І НА ПЛОШЧАХ, ЗНОЎ І ЗНОЎ НЕСЛІ ЯНЫ ДА ЧЫТАЧОЎ СВАЮ ЧАРАДЗЕЙНУЮ І НЕПАЎТОРНУЮ ПАЭТЫЧНУЮ СІЛУ, ВЯЛІ ГУТАРКУ З ЦЭЛЫМ НАРОДАМ, КРАНАЛІ СЭРЦЫ МІЛЬЁНАЎ. НАРОД БЕЛАРУСІ ДАЎНО РЫХТАВАЎСЯ ДА КУПАЛАВА СВЯТА, ЧАКАЎ ЯГО ЯК ВЯЛІКАЙ І РАДАСНАЙ ПАДЗЕІ. І ЯНО СТАЛА ТАКІМ. ЦЭЛЫ ТЫДЗЕНЬ ІШЛІ КУПАЛАЎСКІЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ. ПАЎСЮДНА — У АРДЭНАНОСНЫМ МІНСКУ, У КУПАЛАЎСКІХ МЯСЦІНАХ, У ГАРАДАХ І ВЁСКАХ РЭСПУБЛІКІ — УШАНОЎВАЛАСЯ ІМЯ ВЯЛІКАГА ПЕСНЯРА, ЯГО НЕЎМІРУЧАЯ СПАДЧЫНА. ГУЧАЛІ ВЕРШЫ І ПЕСНІ, УЛАДАРЫЛА ПАЭЗІЯ...**



...І вось ён паўстаў перад вачыма, манумент Купалы.

# НА АПЕТАЙ ІМ ЗЯМЛІ

## АДКРЫЦЦЁ ПОМНІКА ВЯЛІКАМУ ПАЭТУ Ў МІНСКУ

Мінск, вуліца Янкі Купалы, цяністы Купалаўскі парк... Усё ў гэтым месцы напамінае аб вялікім песняры. Тут калісьці стаяў дом паэта. Ён згарэў у лютым полымі вайны. Але ўдзячны народ пабудаваў і адкрыў на месцы старога дома літаратурны музей любімага паэта. Многія ў Беларусі з сардэчнай цеплынёй завуць яго, як даўней,. «Дом Купалы».

Пад засенню старога дуба, што стаяў тут, вялікі паэт складаў свае вершы аб любімай Айчыне, аб партыі, якая вядзе народы Краіны Саветаў і яго родную Беларусь да шчасця...

Раніцай 7 ліпеня, у дзень нараджэння Янкі Купалы, тысячы людзей прыйшлі ў парк, зямля якога памятае крокі, захоўвае думы паэта. Прадстаўнікі грамадскасці Мінска, шматлікія госці, якія прыехалі на купалаўскія ўрачыстасці з Масквы і Ленінграда, з саюзных рэспублік краіны і ўсіх абласцей Беларусі, сабраліся на ўрачысты мітынг, прысвечаны адкрыццю помніка вялікаму народнаму паэту.

Сярод удзельнікаў мітынгу — пісьменнікі і рабочыя мінскіх заводаў, вучоныя і будаўнікі, мастакі і хлебаробы, якія прыехалі сюды з палёў, дзе вось-вось пачнецца жніво. Тут сівыя ветэраны і чырвонагальштучныя школьнікі, воіны Савецкай Арміі і студэнты...

Для старэйшых удзельнікаў урачыстасці Янка Купала быў другам, субяседнікам, настаўнікам. Маладым ён знаёмы толькі па палымяных сваіх кнігах. Але ўсіх прывяла сюды верная любоў да пявучай і мудрай, сапраўды партыйнай музы Купалы, велізарная павага да выдатнага грамадзяніна і мастака слова, творчасць якога далёка перасягнула рамкі нацыянальнай літаратуры, стаўшы здабыткам усіх народаў краіны, мільёнаў зарубежных чытачоў.

Над тысячамі людзей, сярод якіх — прадстаўнікі ўсіх рэспублік СССР, быццам лунаюць вешчыя, поўныя высокай камуністычнай перакананасці вершы Купалы:

> З Масквы, з Крамля хадою
> Удумнай,
> Усенароднай, чалавечай,
> Ідзе, таварышы, камуна
> На свеце шчасце ўвекавечыць!

На адкрыццё помніка прыйшлі загадчык аддзела культуры ЦК КПСС В. Ф. Шаура, сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, член Ваеннага савета, начальнік Палітупраўлення ЧБВА А. В. Дзебалюк, члены ўрада рэспублікі, дэпутаты Вярхоўных Саветаў СССР і БССР, сваякі Янкі Купалы.

Урачысты мітынг адкрыў старшыня выканкома Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных М. В. Кавалёў.

Звяртаючыся да ўсіх удзельнікаў мітынгу і гасцей купалаўскіх урачыстасцей, ён сказаў:

— Сярод слаўных сыноў Беларусі, якімі па праве ганарыцца наш народ, адно з першых месц належыць вялікаму паэту Янку Купалу, чыё жыццё, літаратурная творчасць і грамадская дзейнасць з'яўляюцца высакародным прыкладам самаадданага служэння свайму народу, сваёй савецкай Айчыне.

Янка Купала з поўным правам сказаў аб сабе:

> Я адплаціў народу,
> Чым моц мая магла:
> Зваў з путаў на свабоду,
> Зваў з цемры да святла!

І сёння мы, удзячныя паэту, сабраліся тут, у адным з любімых мінчанамі паркаў, каб адкрыць помнік выдатнаму мастаку слова, у чыёй шматграннай творчасці ўвасоблены лепшыя рысы беларускага народа.

Творчасць Янкі Купалы, гаворыць далей тав. Кавалёў, стала неад'емнай часткай усёй савецкай шматнацыянальнай культуры, яна з'яўляецца дастойным укладам у скарбніцу сусветнай літаратуры. Яго творы любіць народ, яны жывуць і стагоддзямі будуць жыць у пакаленнях савецкіх людзей.

Сёння, у дні святкавання 90-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, мы адкрываем помнік, які ўвасабляе неўміручы вобраз натхнёнага песняра Савецкай сацыялістычнай Радзімы, які аддаў свой палымяны талент і запал свайго сэрца служэнню народу. Няхай гэты помнік, створаны нашымі скульптарамі і архітэктарамі, напамінае сучаснікам і патомкам аб неўміручым вобразе паэта, аб бязмежнай яго адданасці савецкаму народу і Камуністычнай партыі.

Глыбока сімвалічна тое, што помнік паэту ўзведзены ў тым месцы, дзе вуліца, на якой шмат гадоў жыў Купала і якая цяпер носіць яго імя, сустракаецца з галоўнай магістраллю сталіцы Савецкай Беларусі — Ленінскім праспектам. Так і вялікая дарога паэта, яго творчы шлях неаддзельныя ад той магістралі, якая вядзе наш народ у светлую будучыню — камунізм.

Да мікрафона, устаноўленага перад помнікам, падыходзіць народны паэт Беларусі П. У. Броўка. Ад імя пісь-

«Я ЎСЕ СВАЕ СІЛЫ, думы, парыванні майго сэрца аддам народу, партыі Леніна». У гэтых словах Янкі Купалы ўвасоблена яго галоўная жыццёвая і творчая пазіцыя, якой вялікі паэт прытрымліваўся да канца сваіх дзён.

Высокая вернасць народу, камуністычным ідэалам, справе вялікай партыі Леніна, якая вядзе ўсіх працоўных краіны да сапраўднага шчасця, акрыляла творчасць Купалы, зрабіла яго творы і само імя паэта блізкім і дарагім для ўсіх народаў шматнацыянальнага Савецкага Саюза. Вось чаму разам з працоўнымі Беларусі юбілей Купалы адзначае ў гэтыя дні ўся наша неабсяжная краіна— ад Курыл да Карпат, ад Запаляр'я да Сярэдняй Азіі і Закаўказзя.

...Вечная любоў савецкіх людзей да Янкі Купалы. У любы час на яго магіле чырванеюць кветкі — даніна падзякі і светлай памяці народнай.

# НАПЯРЭДАДНІ

Раніцай 6 ліпеня да магілы вялікага песняра на могілкі па вуліцы імя Казлова прыйшлі сотні мінчан і госці сталіцы. Мінутай маўчання ўшанавалі яны памяць любімага народнага паэта.

11 гадзін 30 мінут. На магілу Янкі Купалы ўскладаюцца вянкі і кветкі ад ЦК КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў БССР, ад Саюза пісьменнікаў СССР, Міністэрства культуры СССР, пісьменнікаў Беларусі, Акадэміі навук БССР, Літаратурнага музея Янкі Купалы, Белсаўпрофа, ЦК ЛКСМБ, Міністэрства культуры БССР, мінскіх абкома КПБ і аблвыканкома, гаркома КПБ і гарвыканкома, ад дэлегацый саюзных і аўтаномных рэспублік, Масквы і Ленінграда, калектываў працоўных беларускай сталіцы.

Кветкі былі ўскладзены таксама на магілу Якуба Коласа.

Аб жыцці паэта, сапраўды партыйныя кнігі якога і сёння надзейна і верна служаць будаўнікам камунізма, расказваюць у гэтыя дні кніжна-ілюстрацыйныя выстаўкі, адкрытыя ўсюды ў клубах і бібліятэках беларускіх гарадоў і вёсак. 90-годдзю Янкі Купалы прысвечаны ўрачыстыя сходы і вечары, якія праходзяць у прамысловых калектывах Беларусі, у калгасах і саўгасах, навукова-даследчых цэнтрах і навучальных установах.

Вялікімі падзеямі адзначае купалаўскія дні сталіца рэспублікі. Адна з іх адбылася 6 ліпеня ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР. Тут адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі твораў выяўленчага мастацтва, прысвечанай 90-годдзю двух вялікіх песняроў Беларусі—Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У экспазіцыі прадстаўлена больш за сто жывапісных палотнаў, графічных лістоў, скульптур і работ мастакоў-прыкладнікоў. Яны ўваскрашаюць жывыя вобразы заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры, любімыя, апетыя імі ў вершах куткі роднага краю.

Многія работы, выстаўленыя тут, створаны народнымі мастакамі БССР В. В. Волкавым, З. І. Азгурам, А. К. Глебавым, В. К. Цвірко, А. В. Грубе і многімі іншымі жывапісцамі, графікамі, скульптарамі яшчэ пры жыцці Купалы і Коласа. Іх аўтараў звязвала з паэтамі вялікая асабістая дружба.

Выстаўку адкрыў міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч. З расказамі аб глыбокім уплыве творчасці Купалы і Коласа на развіццё беларускага выяўленчага мастацтва, аб працягу сучаснымі беларускімі пісьменнікамі грамадзянскіх і паэтычных традыцый гэтых буйнейшых майстроў слова перад шматлікімі прадстаўнікамі працоўных і гасцямі юбілейных купалаўскіх урачыстасцей выступілі народны мастак БССР А. П. Марыкс і намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі І. П. Мележ.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі шматлікія прадстаўнікі творчай грамад-



У прэзідыуме ўрачыстага пасяджэння. Выступае Кандрат Крапіва.

Фота Ул. КРУКА.

# ВЯЛІКІ ПЯСНЯР ПРАЦЫ І БРАТЭРСТВА

## УРАЧЫСТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ Ў ТЭАТРЫ ОПЕРЫ І БАЛЕТА

У СЛАЎНЫМ СУЗОР'І імён, якія складаюць гордасць сацыялістычнай культуры, ззяе імя аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры — Янкі Купалы.

Вялікі ўклад Купалы ў скарбніцу ідэйна-мастацкіх каштоўнасцей савецкага народа. Яго велізарная творчасць увабрала ў сябе лепшыя традыцыі рускай і беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай паэзіі мінулага стагоддзя, народную мудрасць і перадавыя ідэі веку.

Кастрычніцкая рэвалюцыя адкрыла новы—самы яркі і плённы этап у творчасці Купалы. Яго натхнёнае пяро ярка раскрывае нараджэнне новага свету, радасны лёс беларускага народа, які набыў у брацкай сям'і савецкіх рэспублік, дзякуючы велізарнай бескарыслівай дапамозе вялікага рускага народа, усіх народаў Краіны Саветаў, сапраўдную свабоду і шчасце. Пясняр народнага лёсу ярка раскрывае ў сваіх творах мудрую палітыку Камуністычнай партыі, яе нястомныя клопаты аб росквіце эканомікі і сацыялістычнай культуры Беларусі.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Янка Купала стварае палымяныя патрыятычныя вершы, выступае з палымянай публіцыстыкай. Ён свята верыў у несакрушальную сілу савецкага народа.

Жыццё і творчасць Купалы—натхняючы прыклад высакароднага, самаадданага служэння народу, партыі Леніна. Яго паэзія, драматургія, публіцыстыка залатымі старонкамі ўпісаны ў скарбніцу савецкай шматнацыянальнай літаратуры.

Не гаснуць, жывуць у народзе цудоўныя творы паэта. Яны гучаць на многіх мовах народаў свету. Верны інтэрнацыяналіст, Купала прысвяціў нямала натхнёных вершаў вялікай Расіі, Украіне, Грузіі, Казахстану... У слаўны год 50-годдзя ўтварэння СССР гэтыя вершы, якія апяваюць брацтва народаў, гучаць з новай сілай і свежасцю.

Юбілею народнага паэта Беларусі быў прысвечаны ўрачысты сход, які адбыўся 7 ліпеня, у дзень нараджэння паэта, у Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР.

Да 15 гадзін глядзельную залу запоўнілі рабочыя прамысловых прадпрыемстваў і будоўляў горада, пісьменнікі, дзеячы навукі, культуры і мастацтва, воіны Савецкай Арміі, студэнты, шматлікія госці купалаўскіх урачыстасцей з Масквы і Ленінграда, з усіх саюзных рэспублік, з гарадоў і вёсак Беларусі.

У прэзідыуме ўрачыстага вечара П. М. Машэраў, Ф. А. Сурганаў, Ц. Я. Кісялёў, В .Ф. Шаура, А. Н. Аксёнаў, Л. Г. Кляцкоў, А. Т. Кузьмін, У. Е. Лабанок, У. Ф. Міцкевіч, А. А. Смірноў, Я. П. Нікулкін, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, член Ваеннага савета — начальнік Палітупраўлення ЧБВА генерал-лейтэнант А. В. Дзебалюк, кіраўнікі і члены дэлегацый пісьменнікаў і грамадскасці Масквы, Ленінграда, усіх саюзных рэспублік, народныя паэты і пісьменнікі Беларусі, выдатныя дзеячы культуры і мастацтва рэспублікі, вядомыя вучоныя, знатныя рабочыя і калгаснікі, грамадскія дзеячы.

●

Урачысты сход яркім уступным словам адкрыў народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі акадэмік АН БССР К. К. Атраховіч (К. Крапіва). Ён гаворыць:

— Беларускі народ і ўся савецкая грамадскасць урачыста адзначаюць дзевяностагоддзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, які заслужыў усенародную любоў і пашану сваёй літаратурнай і грамадскай дзейнасцю, сваімі неўміручымі творамі, прысвечанымі працоўнаму народу, вялікай савецкай Радзіме, роднай Беларусі. У самым пачатку свайго творчага шляху ён вызначыў сабе ролю змагара за шчаслівую долю народа. У першым сваім вершы «Мужык» ён усенародна заявіў, што ён мужык, што ён не адракаецца ад гэтага пагарджанага імя і застаецца назаўсёды верны працоўнаму люду.

Усведамляючы высокую адказнасць перад народам паэта-трыбуна, паэта-змагара за шчасце простых людзей, Янка Купала клапаціўся аб тым, каб даць народу як мага больш ад скарбаў свае душы, свайго вялікага таленту.

> **Я адплаціў народу,**
> **Чым моц мая магла,**
> **Зваў з путаў на свабоду,**
> **Зваў з цемры да святла.**

З малых год на сваім уласным вопыце зазнаў паэт гора і галечу і бяспраўнае становішча працоўнага чалавека, прыгнечанага цяжкім ботам царскага самадзяржаўя і ўзняў на абарону працоўнага люду свой магутны голас, паказаўшы ўсяму свету крыўду народа, яго жаданне і яго неаспрэчнае права «людзьмі звацца». Гэта кроўная непарушная сувязь паэта з працоўным народам жывіла яго вялікі талент, надавала сілу і глыбіню яго творам.

Шчасце, аб якім марыў паэт, прынесла беларускаму народу Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, вызваліўшы яго ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, вызначыўшы яму пачэснае месца сярод народаў-братоў.

Сэрца паэта напоўнілася незвычайнай радасцю, калі ён убачыў свой народ вольным на вольнай зямлі, адданым будаўніком новага сацыялістычнага грамадства. Песня паэта настроілася на новы лад, услаўляючы мудрасць партыі, веліч неўміручых ленінскіх ідэй, гераізм стваральнай працы савецкіх людзей.

Друг і паплечнік Янкі Купалы, народны паэт Беларусі Якуб Колас ацэньваў усю творчасць паэта як адну кнігу, адну песню аб жыцці, працы і барацьбе беларускага народа. «Палавіна гэтай песні,—гаварыў Якуб Колас, — гнеўная і сумная, гэта творы дакастрычніцкага перыяду, калі паэт смела і безагаворачна сваім натхнёным словам паставіў сябе ў лагер байцоў за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне роднага народа.

Другая палавіна—бадзёрая, радасная, поўная пафасу стварэння. Яна прагучала ў той знамянальны час, калі беларускі народ атрымаў сваю дзяржаўнасць пад выпрабаваным кіраўніцтвам Камуністычнай партыі і пачаў рух у сацыялізм і далей—у камунізм».

Творчасць Янкі Купалы, глыбокая па сваім ідэйным змесце, яркая па форме, гуманістычная і задушэўная, знаходзіць шлях да самых народных глыбінь, да сэрца кожнага савецкага чалавека, з'яўляецца здабыткам усяе шматнацыянальнай савецкай культуры, вялікім укладам у скарбніцу сусветнай літаратуры.

Мы з гонарам гаворым сёння пра Янку Купалу як пра натхнёнага песняра дружбы нашай краіны, «дзе казах, беларус пяюць песні адны Радзімы адной арляты-сыны».

Сёння, прыносячы даніну вялікай пашаны і любві народнаму паэту, мы гаворым: слава табе і нізкі паклон, вялікі пясняр беларускага народа, за твае думы аб народзе, за твае неўміручыя творы, за тваё натхнёнае паэтычнае слова, якое кліча савецкіх людзей на новыя подзвігі, на новыя велічныя здзяйсненні.

Яскравым сведчаннем вялікай дружбы нашых народаў, любві і пашаны да народнага паэта Беларусі з'яўляецца ўдзел у сённяшнім святкаванні нашых дарагіх гасцей з брацкіх рэспублік, гарадоў Масквы і Ленінграда.

К. К. Крапіва называе імёны гасцей, якія прыбылі на святкаванне.

●

Затым слова атрымлівае старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, народны паэт Беларусі Максім Танк.

Дарагія таварышы!

Сёння беларускі народ, шырокая грамадскасць нашай Савецкай Радзімы, нашы шматлікія замежныя сябры ўрачыста адзначаюць слаўнае 90-годдзе са дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, які побач са сваім другам Якубам Коласам з'яўляецца заснавальнікам сучаснай беларускай літаратуры і чыё імя ўздымаецца неабсяжнай вяршыняй над горным кражам нашай літаратуры.

Час, калі прыйшоў паэт на свет, не быў, як вядома, спрыяльным ні для жыцця ні для песень. Знаёмячыся з дакастрычніцкім перыядам гісторыі беларускага народа, калі ён жыў пад двайным сацыяльным і нацыянальным прыгнётам, быў бяспраўны і прыніжаны, пазбаўлены свайго імя і сваёй мовы, — з'яўленне Купалы было і застаецца з'явай, перад якой мы і сёння спыняемся ў захапленні і здзіўленні.

У метрычным запісе паэта, відаць, побач з імёнамі яго бацькоў, датай і месцам нараджэння трэба было напісаць, што павітухай яго было гора нашага народа, а хрысціла яго рэвалюцыя.

Жыццёвы шлях Купалы да яго першых твораў, па якіх можна было адчуць нават не будучы нейкім празорліўцам, што з'явіўся паэт, які скажа свету новае нечуванае слова аб сваім народзе, яго пакутах, марах, імкненнях, вымяраецца ўсяго гадамі яго кароткага і беспрасветнага юнацтва. Але за гэты час паэт прайшоў амаль усе кругі пекла, у якім жыў беларускі народ. Ён зведаў долю беспрацоўнага, катаржную працу рабочага, нястачу і голад, трывогу за заўтрашні дзень і той духоўны разлад, які раскрыўся паміж рэальным жыццём і «светам думак, фантазій, якія пачэрпаў з кніг».

Бадай што немагчыма ўстанавіць дакладную дату зараджэння першай песні нават тады, калі мы маем верагоднае сведчанне і самога паэта і яго сучаснікаў. Яна магла запасці ў яго сэрца з рэхам матчыных казак, з пералівамі пастуховай жалейкі, чорствай крошкай батрацкага хлеба, са слязой, якая не раз апаліла твар, з кропляй поту, выступіўшай на сагнутых за сахой яго плячах, з дарожным пылам падчас бясконцых вандровак па шляху жыцця, які ледзь прыкметнай сцяжынай пачаўся ад нізкага сасновага парога, невялічкай, з падслепаватымі вокнамі, земляной падлогай, с пашчэрбанымі сценамі, парослай мохам саламянай страхой арандатарскай хаціны ў Вязынцы. Бо песня нараджаецца, як гром у хмарах, з нашых эмацыянальных пачуццяў, якія часамі, гадамі збіраюцца ў сэрцы пакуль іх не разбудзіць першая бліскавіца.

Пачаткам літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы прынята лічыць 1905 год, калі ў Мінскай рускай газеце «Северо-Западный край» з'явіўся вядомы яго верш «Мужык». Рэдка каму, нават з самых выдатных паэтаў удавалася пачаць свой запеў з такога магутнага акорду. У гэтым вершы ўжо ёсць тыя характэрныя рысы таленту Янкі Купалы, якія знойдуць сваё развіццё ў яго далейшай творчасці. Гэта — арганічнае спалучэнне грамадскіх матываў і асабістых пачуццяў. Калі Купала піша аб сваіх перажываннях, аб сваім смутку і радасці, мы адчуваем, што гэта было і з намі; калі ён піша аб жыцці свайго героя, мы адчуваем, што з ім разам пакутуе, змагаецца і сам паэт. Верш «Мужык» — своеасаблівы маніфест ад імя тых, хто рыхтуецца ўступіць на шлях рэвалюцыйных пераўтварэнняў. У ім выказаны ўсе крыўды, якія перажыў гэты мужык і якія клічуць да помсты. І хоць у вершы няма адкрытага закліку да звяржэння несправядлівага ладу, мы гэта адчуваем у самім падтэксце, паміж радкамі.

> **Што я мужык, усе тут знаюць**
> **І як ёсць гэты свет вялік,**
> **З мяне смяюцца, пагарджаюць**
> **Бо я — мужык, дурны мужык.**

# ВЯЛІКІ ПЯСНЯР ПРАЦЫ І БРАТЭРСТВА

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й і 5-й стар.)

Само імя Янкі Купалы выклікае гордасць за чалавека, умацоўвае веру ў жыццё. Як усё вялікае, яно пацвярджае тое, што няма мораў больш глыбокіх, чым чалавечае сэрца, няма стэпаў шырэйшых за чалавечыя душы, што няма на зямлі гор больш высокіх, чым людзі.

У дзень вашага свята—90-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы— прыміце, таварышы, прывітанне і віншаванні ад праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, ад усіх пісьменнікаў нашай Радзімы!

Выступае слесар-лякальшчык Мінскага трактарнага завода Герой Сацыялістычнай Працы Е. І. Клімчанка.

Творчасць Янкі Купалы, гаворыць ён, дапамагае нам у працы і жыцці. Яго жывое слова аб будаўніках нашай шчаслівай долі гучыць на прасторах нашай Радзімы, якой ён прысвяціў сваю неўміручую ліру...

Добра ведаюць і любяць паэта мае таварышы па працы — мінскія трактарабудаўнікі. Мы з вялікай цікавасцю чытаем купалаўскія творы, прасякнутыя высокім грамадзянскім пафасам, глядзім у тэатрах яго п'есы.

Ёсць на нашым заводзе не зусім звычайны музей — тэатральны. У ім адкрыта цікавая экспазіцыя, якую нам падарылі шэфы — артысты акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Яна расказвае аб тым, як купалаўская драматургія ўвасаблялася на прафесіянальнай і самадзейнай сцэне.

Ёсць у нас і свой заводскі народны тэатр. Ён зараджаўся разам з заводам. Тэатр трактарабудаўнікоў пачынаўся з багатай драматургіі Янкі Купалы. Нашы рабочыя артысты, ужо ў першы пасляваенны год, калі пачалося будаўніцтва завода, паказалі спектаклі «Паўлінка», «Прымакі», «Раскіданае гняздо». Будаўнікі прама з рабочых месц прыходзілі ў свой клуб на сустрэчу з драматургіяй Купалы і на спектаклях атрымлівалі выдатны духоўны зарад.

Янка Купала заўсёды з намі, імя і творчасць яго перадаецца з пакалення ў пакаленне. Нам дорагі кожны радок, кожнае слова, напісаныя Купалам.

Старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў РСФСР Сяргей Міхалкоў сказаў у сваім выступленні:

— Яшчэ ў раннім юнацтве, вандруючы па родным краі, пазнаўшы горкую долю шматпакутных беларусаў, Янка Купала сыноўскім сэрцам адчуў і зразумеў іх запаветную думу— «людзьмі звацца». Яго паэзія, нарадзіўшыся ў самым пачатку стагоддзя, нястомна клікала беларускі народ на барацьбу за лепшую долю, за свет справядлівасці і шчасця.

Высокія і святыя правы чалавечай роўнасці і брацтва беларусам, як і ўсім народам нашай краіны, дала Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Янка Купала ўсю сілу свайго таленту прысвячае Вялікаму Кастрычніку. Ён праслаўляе сацыялістычную садружнасць савецкіх народаў.

З першых жа дзён Вялікай Айчыннай вайны са старонак газет палымяныя вершы паэта-патрыёта заклікаюць да справядлівай народнай помсты захопнікам. Сцяг перамогі ўзвіўся над цытадэллю фашызму, аднак Янка Купала не дажыў да гэтага дня. Але, святкуючы вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, мы заўсёды ўспамінаем аднаго з верных байцоў супраць гітлерызму—Янку Купалу.

Бязмежная яго творчая дзейнасць. З імем Купалы, як і з імем Якуба Коласа, звязана стварэнне новай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы, стварэнне нацыянальнага беларускага тэатра. Дзякуючы Янку Купалу на беларускай мове загучалі неўміручае «Слова аб палку Ігаравым» і думы вялікага кабзара Украіны, паэмы Пушкіна і песні Кальцова і Някрасава.

Гэта натхнёная інтэрнацыянальная праца Янкі Купалы поўная асаблівага сэнсу цяпер, калі мы рыхтуемся да 50-годдзя ўтварэння СССР. Таму мы, прадстаўнікі брацкіх літаратур Расіі, радуючыся поспехам Беларусі, якіх яна дасягнула пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, успамінаючы натхнёнага песняра Радзімы і партыі, гаворым: «Слава Янку Купалу!»

На трыбуне намеснік міністра культуры СССР К. В. Варанкоў. Ад імя Міністэрства культуры і ўсіх дзеячоў культуры краіны ён віншуе працоўных рэспублікі з 90-годдзем вялікага сына беларускага народа Янкі Купалы. Творчасць Купалы цесна звязана з рэвалюцыяй. Паэт удала спалучаў у сваіх творах вопыт сусветнай прагрэсіўнай літаратуры, высока нёс сцяг сацыялістычнага рэалізму. Ён многае зрабіў для расшырэння сувязей беларускай літаратуры з літаратурамі іншых брацкіх народаў. Ён пераклаў творы многіх пісьменнікаў брацкіх рэспублік на беларускую мову. Творы самога Купалы перакладзены на мовы многіх народаў СССР і зарубежных краін.

Цяпер дзеячы культуры нашай краіны разам з усім савецкім народам рыхтуюцца сустрэць вялікае свята— 50-годдзе ўтварэння СССР. У гэтыя дні асабліва хочацца адзначыць, што выдатнага песняра шчасця і дружбы народаў Янку Купалу любяць ва ўсіх



У зале ўрачыстага пасяджэння.

кутках нашай краіны. У тэатрах СССР цяпер ідуць яго п'есы, са сцэны, у канцэртных праграмах чытаюцца яго вершы.

К. В. Варанкоў ад усёй душы пажадаў беларускаму народу, які даў сусветнай літаратуры Янку Купалу, новых поспехаў на ўсіх участках камуністычнага будаўніцтва, у выкананні рашэнняў XXIV з'езда КПСС.

Геній Янкі Купалы, яго клопаты аб родным народзе асабліва пранікнёна адчуваеш на беларускай зямлі, калі бачыш, як натуральна і як паўсюдна ўвайшла яго муза ў сэрцы людзей,— сказаў ленінградскі пісьменнік Алег Шасцінскі. — За два дні, якія мы правялі ў Мінску, многае не ўбачыш. Але мы бачылі Мінск, які паўстаў з папялішча, пранікліся мужнасцю народа, якога не ўдалося зламаць ворагу.

І мы падумалі, што ў духоўным абліччы беларускага народа, які стаў такім, якім ён паўстае свету сёння, у мужнасці народа і ў яго подзвігу ёсць уклад і Янкі Купалы.

Нам, ленінградцам, дорага, што Янка Купала быў цесна звязаны з культурай нашага горада, што маральнае развіццё паэта праходзіла пад уплывам лепшых дэмакратычных, рэвалюцыйных розумаў Пецярбурга. Ён выдаў у нашым горадзе першыя свае кнігі. І мы, ленінградцы, з поўным правам можам сказаць: «Наш Янка Купала!».

Мы ўчора пабывалі на Кургане Славы, што пад Мінскам. Узняўшыся на гэты велічны курган і ўбачыўшы ўдалечыні паспяваючую збажыну, вёскі, акружаныя садамі, лініі асфальтаваных дарог, мы падумалі аб Беларусі, аб яе мужным народзе.

Але ёсць яшчэ адзін курган Славы ў Беларусі—гэта паэзія Янкі Купалы і Якуба Коласа. І нам, рускім паэтам, радасна, што з яго вышыні мы бачым сучасную беларускую паэзію, насычаную народным духам, верную слаўным ідэалам Камуністычнай партыі.

На трыбуне—Герой Савецкага Саюза, намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Украіны Юрый Збанацкі.

Любіць і ўшаноўвае Янку Купалу наша Украіна,—гаворыць ён,—шмат разоў выдаваліся ў нас яго кнігі. Ва ўвесь голас гучаць на Украіне яго цудоўныя вершы, ажываюць неўміручыя купалаўскія вобразы на роднай мове паэта, таму што сёння радыё і тэлебачанне свабодна падарожнічаюць з краю ў край.

Вершы Янкі Купалы адкрываюць першы том анталогіі беларускай паэзіі, якая выйшла на Украіне ў перакладах нашых лепшых паэтаў.

Вобраз вялікага сына Беларусі ў гэтыя дні лунае ў сэрцы кожнага ўкраінца. Толькі ўчора ў Кіеве адбыўся ўрачысты вечар грамадскасці, прысвечаны юбілею песняра беларускага народа. Літаратурныя вечары праводзяцца ва ўсіх гарадах і вёсках рэспублікі. Жывое слова Купалы гучыць у эфіры над зямлёй вялікага Кабзара.

Прысутнічаючы на ўрачыстасці адкрыцця велічнага помніка Янку Купалу, мы бачылі, як да яго падножжа клаліся кветкі з усіх куткоў Беларусі, з розных месц нашай шматнацыянальнай Радзімы. Гэта гаворыць аб бязмернай любві да паэта ўсіх брацкіх народаў Краіны Саветаў.

Ад імя пісьменнікаў, работнікаў культуры і ўсіх працоўных Савецкага Узбекістана дазвольце перадаць вам у сувязі з вашым вялікім святам — 90-годдзем з дня нараджэння вялікага беларускага паэта Янкі Купалы— самае сардэчнае і гарачае, як наша паўднёвае сонца, брацкае прывітанне! Гэтыя словы сардэчна і пранікнёна сказаў паэт, заслужаны дзеяч мастацтва Узбекскай ССР Хамід Гулям.

Мы ганарымся даўняй дружбай паміж нашымі народамі. Яна нарадзілася і ўзмацнела дзякуючы Вялікаму Кастрычніку і мудрай ленінскай нацыянальнай палітыцы нашай роднай Камуністычнай партыі. Найвялікшае гістарычнае выпрабаванне вытрымала наша дружба ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У той час, калі палымяным заклікам да барацьбы супраць гітлераўскіх захопнікаў прагучала гордая ода Янкі Купалы «Беларускім партызанам», у брацкай Беларусі са зброяй у руках змагаўся з ворагам і наш салдат і паэт Султан Джура, пахаваны на вашай зямлі. Тут праславіўся наш партызан, Герой Савецкага Саюза Мамадалі Тапівалдыеў. У тыя гады дзесяткі тысяч дзяцей, старыя і жанчыны Беларусі знайшлі прытулак у нашых дамах, акружаныя чулай увагай сваіх узбекскіх братоў і сясцёр.

У светлы дзень свята шматнацыянальнай савецкай літаратуры мне асабліва прыемна перадаць вам сардэчную ўдзячнасць узбекскага народа за выдатны беларускі квартал, які будаўнікі вашай рэспублікі ўзвялі ў Ташкенце пасля землетрасення.

Дарагія браты, сказаў далей Хамід Гулям. Я рады паведаміць, што рашэннем выканкома Ташкенцкага Савета дэпутатаў працоўных адна з цэнтральных вуліц горада Ташкента, у азнаменаванне 90-годдзя з дня нараджэння вялікага беларускага паэта, названа імем Янкі Купалы.

Гарачае прывітанне ад народа і пісьменнікаў Казахстана перадаў беларускаму народу ў дзень 90-годдзя вялікага песняра Янкі Купалы паэт Халіжан Бекхожын. Ён падкрэсліў вечнае значэнне творчасці Купалы ва ўмацаванні інтэрнацыянальнай дружбы народаў СССР, у развіцці сувязей брацкіх літаратур.

У Грузіі добра ведаюць і высока ўшаноўваюць Янку Купалу за яго выдатныя творы. Вялікі сын беларускага народа дораг грузінам за яго глыбокі інтэрнацыяналізм, за тое, што ён з усёй гарачынёй свайго палымянага сэрца ўслаўляў брацтва, роўнасць, працу. Гэтыя словы прагучалі ў прамове сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Грузінскай ССР Бесо Жгенці.

Пранікнёныя словы аб вялікім паэце сказаў дырэктар саўгаса імя Янкі Купалы Маладзечанскага раёна А. А. Гоман. Загляніце цяпер на Маладзечаншчыну,—гаворыць ён.—Прайдзіце ад яе ўмоўнай граніцы, якая пачынаецца ля Вязынкі і Радашковічаў, пад Вілейку, Смаргонь і Валожыншчыну. Палюбуйцеся нашымі дабротнымі і прыгожымі вёскамі і пасёлкамі, палямі і фермамі. Не, не пазнаеце ўжо ні былых Сялёдчыкаў, размешчаных побач з купалаўскай Вязынкай. Не пазнаць і іншых вёсак усёй нашай Беларусі.

Год ад году багацее наша ніва. Цяпер хлебаробы саўгаса мяркуюць атрымаць з гектара па 35 цэнтнераў збожжа, даць да стала працоўных намнога больш, чым ва ўсе папярэднія гады, малака, мяса, гародніны і іншых прадуктаў. Ужо многія гаспадаркі раёна свой «збожжавы рубеж» перанеслі за 40 і нават за 45 цэнтнераў з гектара. Такім павінен быць і будзе наш маладзечанскі каравай да 50-годдзя ўтварэння СССР. Думаю, гэта вельмі парадавала б нашага Янку Купалу.

Кіраўнік прыбыўшай на юбілейныя ўрачыстасці дэлегацыі Азербайджана паэт Асман Сарывелі ад імя слаўных бакінскіх рабочых, азербайджанскіх калгаснікаў, літаратурнай грамадскасці рэспублікі сардэчна павіншаваў удзельнікаў сходу з вялікім святам— 90-годдзем з дня нараджэння вялікага паэта, драматурга, грамадскага дзеяча брацкай Беларусі—Янкі Купалы.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, мудрая ленінская нацыянальная палітыка, сказаў ён, выхавала нас у духу дружбы, брацтва, у духу непарушнага саюза паміж народамі нашай вялікай краіны. Іменна таму сёння, як вялікае свята паэзіі, адзначаем мы, прадстаўнікі ўсіх брацкіх савецкіх народаў, юбілей выдатнага сына беларускага народа Янкі Купалы.

Янка Купала быў нястомным песняром будаўніцтва камунізма ў нашай краіне, песняром нашай партыі, ідэй вялікага Леніна. Будучы сапраўдным інтэрнацыяналістам, ён у сваёй творчасці горача прапагандаваў дружбу паміж народамі. Не выпадкова паэт пісаў палымяныя вершы аб Тарасе Шаўчэнку і Руставелі, аб Сулеймане Стальскім і Джамбуле. Бо яны—сапраўды народныя паэты, народныя творцы.

Каўказ—край высокіх гор, гаворыць у заключэнне Асман Сарывелі, але нам, жыхарам Закаўказзя, і цераз Каўказскі хрыбет вельмі добра відаць дзве велічныя вяршыні беларускай паэзіі. Гэта паэзія Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэтыя вяршыні дорагі ўсім брацкім савецкім народам. Яны клічуць нас да вечнай дружбы і братэрства!

На ваша нацыянальнае літаратурнае свята мы прыбылі са старажытнай сталіцы Літвы—Вільнюса,—сказаў акадэмік АН Літоўскай ССР Костас Корсакас.—З гэтым горадам цесна звязана жыццё Янкі Купалы. Тут выдатны паэт актыўна ўключыўся ў нацыянальна-вызваленчы рух, тут ён напісаў многія выдатныя творы. Тут упершыню была пастаўлена яго п'еса «Паўлінка».

Цесная дружба звязвала Янку Купалу і літоўскіх савецкіх пісьменнікаў. Тыя з нас, якім пашчаслівілася быць знаёмым з беларускім паэтам, на ўсё жыццё запомнілі яго абаяльнае, светлае аблічча. Грамадскасць нашай рэспублікі глыбока ўшаноўвае памяць аб Янку Купалу. Імем яго названа адна з вуліц горада Вільнюса, на доме, дзе жыў паэт, прымацавана мемарыяльная дошка, а ў хуткім часе ў Вільнюскім літаратурным музеі імя Пушкіна адкрыецца пастаянная экспазіцыя, прысвечаная жыццю і творчай дзейнасці выдатнага сына беларускага народа.

Слова атрымлівае народны артыст СССР Р. Р. Шырма. Разам з ім да трыбуны падыходзяць вядомыя майстры беларускага мастацтва Л. П. Александроўская, Л. І. Ржэцкая, У. У. Корш-Саблін, І. І. Жыновіч, Г. І. Цітовіч, З. І. Азгур.

Янку Купалу мы па праве можам назваць прадвеснікам і зачынальнікам нашай нацыянальнай сацыялістычнай культуры, сказаў Р. Р. Шырма. Яго роля ў працоўным і культурным жыцці рэспублікі не паддаецца вымярэнню. У мірныя дні — «Над ракой Арэсай» і «Вечарынка ў калгасе». У суровыя часы ваенных выпрабаванняў — мужны зварот да партызан:

**Партызаны, партызаны,**
**беларускія сыны!**
**За няволю, за кайданы**
**рэжце гітлерцаў паганых,**
**каб не ўскрэслі век яны...**

Хіба забудуцца калі-небудзь гэтыя палымяныя словы? Як сам подзвіг савецкіх воінаў, яны неўміручыя!

Натхняючыя песні Янкі Купалы неаддзельныя ад нашага жыцця. Уславіць наш сённяшні і заўтрашні дзень — справа гонару яго наследнікаў, вялікага атрада творчай інтэлігенцыі рэспублікі.

Слова атрымлівае прадстаўнік сакратарыята ЮНЕСКО, доктар гістарычных навук В. А. Цюрын. Ён паведамляе, што 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы — выдатнага беларускага савецкага паэта XX стагоддзя — унесена па прапанове Камісіі Беларускай ССР па справах ЮНЕСКО ў міжнародны каляндар святкавання гадавін вялікіх людзей і гістарычных падзей.

Песня Купалы мела такія магутныя крылы, валодала такой сілай і энергіяй, што вельмі хутка выйшла за межы роднай зямлі, загучала на рускай, украінскай, літоўскай, польскай, чэшскай і іншых мовах. Яго творы сістэматычна перакладаліся, пачынаючы з 1910—1911 гадоў, і перакладалі іх такія выдатныя мастакі слова, як Максім Горкі, Валерый Брусаў, Людас Гіра. Усё гэта — пераканаўчае прызнанне велічы купалаўскага генія, духоўнага багацця беларускага народа.

Літаратурная спадчына Янкі Купалы — гэта гонар і гордасць беларускага народа, усяго савецкага народа, які адзначае сёлета 50-годдзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Творчасць Купалы з'яўляецца яркай часткай укладу беларускай савецкай культуры ў агульную скарбніцу прагрэсіўнай культуры чалавецтва.

На трыбуне старшыня Саюза пісьменнікаў Чувашскай АССР М. С. Дзедушкін. Народны паэт Беларусі Янка Купала, гаворыць ён, па праве стаў усенародным паэтам шматнацыянальнай Краіны Саветаў. Ён дораг і нам — чувашам. Яго творчасць цесна звязана з жыццём і дзейнасцю работнікаў літаратуры і мастацтва Чувашыі. Купала быў на нашай зямлі ў самыя цяжкія дні Вялікай Айчыннай вайны. Ён стаў для майго народа блізкім другам і братам.

У гэтыя дні ў нас, у Чувашыі, усюды праходзяць купалаўскія літаратурныя вечары. Нумары нашых газет і часопісаў прысвечаны жыццю і дзейнасці Купалы. Выдадзены зборнік выбраных вершаў паэта на чувашскай мове. Ёсць вуліца ў сталіцы нашай рэспублікі, названая імем Янкі Купалы. Дзякуй беларускаму народу, які даў свету такога тытана, як Янка Купала.

Адзін за адным на трыбуну падымаюцца госці юбілейных купалаўскіх урачыстасцей — малдаўскі паэт Пётр Кручанюк, намеснік міністра культуры Латвійскай ССР Г. К. Вернер, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Кіргізіі, літаратурны крытык Тэндзік Аскараў, Старшыня Вярхоўнага Савета Таджыкістана, народны паэт рэспублікі Мірсаід Міршакар, армянская паэтэса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Сільва Капуцікян, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Эстоніі Уладзімір Беэкман, татарскі паэт Закі Нуры, заслужаная паэтэса Туркменіі Таушан Эсенава. Яны расказваюць аб велізарнай папулярнасці творчасці Янкі Купалы ў іх рэспубліках, аб моцных вузах, якія звязваюць брацкія літаратуры Краіны Саветаў.

Госці ўручаюць наследнікам пісьменніцкай справы Купалы — пісьменнікам і паэтам Беларусі памятныя падарункі, кнігі вялікага песняра, выдадзеныя на мовах іх народаў.

Радасным фінальным акордам урачыстага сходу, прысвечанага вялікаму сыну і паэту Беларусі, з'явілася тэатралізаванае прывітанне камсамольцаў і моладзі Мінска. Са сцэны тэатра прагучалі праніклёныя вершы паэта. З імі неразлучная беларуская моладзь.

З заключным словам выступіў першы намеснік старшыні СП БССР І. Шамякін. Ён выказаў пачуццё глыбокай ўдзячнасці роднай Камуністычнай партыі, Савецкаму ўраду за вялікі клопат, за вялікую бацькоўскую ўвагу да ўшанавання класікаў нашай літаратуры.

І. Шамякін таксама сардэчна падзякаваў дарагім гасцям — работнікам ЦК КПСС, Ленінградскага, Чувашскага абкомаў партыі, Міністэрства культуры СССР, прадстаўнікам літаратуры вялікага рускага народа, усіх братніх савецкіх народаў і братніх літаратур за іх шчыры і актыўны ўдзел у нацыянальным свяце беларусаў—юбілеі Янкі Купалы. Гэта—яшчэ адно яскравае сведчанне адзінства і дружбы народаў, аб'яднаных у магутны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, 50-годдзе якога рыхтуецца ўрачыста і радасна адзначыць увесь савецкі народ.

У заключэнне адбыўся вялікі святочны канцэрт майстроў мастацтваў БССР.

●

Вечарам 7 ліпеня ў гонар гасцей юбілейных купалаўскіх урачыстасцей быў наладжаны прыём.

БЕЛТА.

Юрый ЛАКЕРБАЙ

## У ГАРАХ

Хлопец падымаецца высока—
Табуном сваім туманіць горы,
Дзе лугáм зялёна і шырока,
Дзе цяснінам цёмна ля
Клухоры.
Мякка змрок ступае ссірацелы.
Вечар натамлёна жмурыць
вочы.
Кніга белакрыла прыляцела—
Не заснуць хлапчыне
да паўночы!

Дагарае хворост. Засынае
Гаспадар крутога перавала.
На калматай бурцы спачывае
З зорамі уполплечкі
Купала...

Пераклаў з рускай Р. БАРАДУЛІН.






Ля хаты ў Вязынцы...

# СВЯТА ПАЭЗІІ Ў ВЯЗЫНЦЫ

У гэты дзень над Вязынкай хмурылася неба. Дробны дождж імжэў над хатай, дзе ўпершыню ўдыхнуў паветра радзімы Янка Купала, над сажалкай, над векавымі ліпамі і пералескамі, дзе ўпершыню адкрылася яму паэтычная прыгажосць роднай зямлі. Але тысячы людзей — жыхароў вёсак сталічнай вобласці, Маладзечна і Радашковіч, мінчан, гасцей з усіх канцоў неабсяжнай Савецкай краіны, якія сабраліся на тэрыторыі мемарыяльнага купалаўскага запаведніка на вялікае свята, сагравалі ў гэтыя гадзіны прамяністае цяпло любві да паэзіі, сонца дружбы.

Адзінаццаць гадзін. На цэнтральнай эстрадзе — партыйныя і савецкія работнікі, пісьменнікі Беларусі, прадстаўнікі творчых саюзаў, рабочыя і калгаснікі, госці з брацкіх рэспублік.

Афіцыйную частку свята кароткім уступным словам адкрывае старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі, народны паэт БССР Максім Танк.

Гучыць з эстрады, спляцаючыся ў яркі вянок братэрства, шматмоўная гаворка...

Свой верш, прысвечаны Янку Купалу і Якубу Коласу, прачытаў народны паэт БССР П. У. Броўка.

Да мікрафона падыходзіць рускі паэт Міхаіл Луконін. Звяртаючыся да землякоў Янкі Купалы, ён гаворыць:

— Не кожнаму раёну даводзіцца даць свету вялікага паэта. Вам, жыхарам Маладзечанскага раёна, пашчасціла больш, чым многім.

М. Луконін чытае свой верш «Абеліск». Пімен Панчанка дорыць прыхільнікам купалаўскага таленту свае, толькі што народжаныя тут, у Вязынцы, радкі:

...Толькі Вязынку, хату
Купалы
наш народ захавае
навек.
Бо і сёння адгэтуль
нямала
пачынаецца песенных
рэк.

Чытае свае вершы ленінградзец Алег Шасцінскі. Яго змяняе ўкраінскі паэт Мікола Нагнібяда. Ён прынёс сюды вершы, навеяныя вялікай падзеяй, удзельнікам якой ён быў напярэдадні, раніцай 7 ліпеня — адкрыццём помніка Купалу ў дзень нараджэння вялікага песняра.

Хваляваннем ад сустрэчы з Вязынкай прасякнуты вершы ленінградца Леаніда Хаустава, якія ён напісаў літаральна перад выхадам на эстраду.

Перад мікрафонам беларускі паэт Анатоль Вялюгін.

— Нарадзіўся Янка Купала, — гаворыць ён, — у Вязынцы. Гэта бясконца дарагі, блізкі і любімы намі куток зямлі. Але радзіма ў Купалы — уся Беларусь, уся наша неабсяжная краіна. Вось чаму сабраліся тут прадстаўнікі шматнацыянальнай савецкай паэзіі.

— Янка Купала навечна прапісаны ў нас, у Ленінградзе, — з поўным правам сказала ленінградская паэтэса, перакладчыца купалаўскіх вершаў Марыя Камісарава.

Добры дзень, землякі нашага роднага беларускага паэта! — усхвалявана гаворыць казахскі паэт Абраш Камішаў. У гэтым звароце — усё дакладна. Казахскі народ па праве лічыць Купалу і сваім родным паэтам.

— Азербайджан ужо даўно парадніўся з паэзіяй Янкі Купалы, блізкай нашаму народу, як і народу Беларусі, — сказаў госць з Баку Фікрэт Садых, які прачытаў свае вершы аб вялікім беларускім песняры.

У многіх гарадах краіны ёсць вуліцы імя Янкі Купалы. Калі іх сабраць разам, то акажацца, што Вязынка падарыла нам і выдатны светлы горад, імя якому — Янка Купала, — гаворыць армянская паэтэса Сільва Капуцікян.

Думкаю аб блізкасці творчасці Купалы іх народам прасякнуты выступленні ўзбекскага паэта Нармурата Нарэўлаева, які прысвяціў Купалу і Коласу свой верш, украінскай паэтэсы Любові Забашта, таджыкскага паэта Мірсаіда Міршакара, літоўскага паэта Эўгеніюса Матузявічуса, малдаўскага паэта Пятра Кручанюка і многіх іншых гасцей Вязынкі.

Вершы, якія ўслаўляюць жыватворную дружбу народаў Краіны Саветаў, аб Беларусі, яе людзях, прачыталі беларускія паэты Максім Лужанін, Аляксей Пысін, Мікола Аўрамчык, украінец Алекса Юшчанка, узбек Гулям Хамід, таджык Убайд Раджаб, эстонец Уладзімір Беэкман, чуваш Мікалай Дзедушкін...

Праніклівыя радкі прысвяціў Янку Купалу, непарушнаму мосту дружбы паміж народамі, які ён нястомна ўмацоўваў сваёй творчасцю, татарскі паэт Закі Нуры. Многія беларусы яго па праве лічаць сваім земляком. Бо Закі Нуры ў гады вайны змагаўся ў радах беларускіх партызан.

Закончыліся выступленні пісьменнікаў, і гаспадарамі эстрады становяцца самадзейныя артысты і майстры мастацтваў Беларусі. Але юбілейны канцэрт пачаў... сам Янка Купала. Час захаваў нам неацэнныя запісы яго голасу. І над Вязынкай, над роднымі месцамі яго дзяцінства чуваць ясныя спакойныя словы:

Трэба нам песень
шчырых і чулых,
Што праўду дзён
нашых да полюсаў
неслі б
і славу вякоў,
пакаленняў мінулых
сваёй перамогай
геройскай устраслі.

Сімфанічны аркестр выконвае ўрачыстую уверцюру, нібы развіваючы думку паэта аб велічы справы народа, Камуністычнай партыі.

Мары і спадзяванні паэта — гэта мары і спадзяванні мільёнаў савецкіх людзей. Вобразны расказ аб увасабленні іх у жывую яву нашых дзён удзельнікі свята ўбачылі ў маляўнічай харэаграфічнай сцэне «На купалле». Чуюцца вершы, песні, музыка. Яны славяць працу, дружбу народаў, мудрасць партыі Леніна, якой так верна служыў Янка Купала.

Магутна гучыць фінал песні, якую выконвае хор:

Гэй, вольныя птахі!
У вырай да сонца!
Час вылецець к славе,
дзівіці народы!

...Пасля канцэрта госці Вязынкі знаёмяцца з Купалаўскім мемарыяльным запаведнікам, аглядаюць філіял музея паэта ў яго родным доме, набываюць у кіёсках кнігі Янкі Купалы, пісьменнікаў і паэтаў, якія ўдзельнічаюць у юбілейных урачыстасцях.

Яркім відовішчам парадавалі гасцей танцавальныя калектывы з гарадоў і вёсак Міншчыны.

А на беразе сажалкі пачынаюцца вясёлыя, песенныя, жыццярадасныя «купальскія» гульні, народжаныя народнай традыцыяй, фальклорам, якія так шчодра жывілі творчасць Янкі Купалы.

З надыходам вячэрняга змроку ўдзельнікі свята ўбачылі фільмы. З экрана шагнуў да іх, павёў задушэўную размову з імі сам Янка Купала — чалавек, любоў да якога будзе жыць у народзе вечна.

БЕЛТА.

# ЯГО ЎПЛЫЎ БЯЗМЕЖНЫ

Якаў ХЕЛЕМСКІ

Лёс, на жаль, не абдарыў мяне асабістым знаёмствам з Купалам, сустрэчамі, гутаркамі, перапіскай. У тую пару, калі я далучыўся да перакладу беларускай паэзіі, Івана Дамінікавіча ўжо не было ў жывых.

Але сустрэча з яго вершамі адбылася ў раннім юнацтве, і з тых дзён засталося ў душы шчаслівае пачуццё адкрыцця. Здзіўляла гучанне гэтай лірыкі. Усё ў ёй было: працяжнасць пастуховай жалейкі і шчодры перазвон цымбал, пранізлівая струна векавога смутку і трубны глас надзеі, пявучая прастата і глыбінная мудрасць. Усё ў ёй было: шум баравой хвоі, плёскат азёрных вод, трапяткое полымя кастроў у празрыстым паўсвятле купалаўскай ночы. Але мацней за ўсё звінела ў гэтых вершах гордае дачыненне да таго, чым жывуць беларусы, да іх пакут, песень, імкненняў. І пры гэтым — незвычайная скромнасць, чароўна выказаная ў вершы «Я не паэта»:

**...А беларусы нікога ж не маюць,**
**Няхай жа хоць будзе Янка**
**Купала.**

І як жа пашанцавала Беларусі, што ў цяжкі для сябе час яна набыла такога песняра, які прайшоў з ёй шлях ад нясмелых надзей да самых смелых здзяйсненняў!

Мне не давялося мець сувязі з Купалам. Яго характар, яго аблічча, яго чалавечую сутнасць я спасцігаў па вершах. Але жывыя рысы вялікага майстра ва ўсёй паўнаце я адчуў у горкую восень сорак першага, калі на Бранскім фронце пасябраваў з беларускімі паэтамі. Адрэзаныя ад сваёй зямлі, яны з сумнай пяшчотнасцю ўспаміналі ўсё роднае. І, вядома ж, у іх размовах часта гучала імя Купалы.

І як гучала!

Я чуў у розных канцах зямлі пачцівыя словы, з якімі людзі звярталіся да вялікіх майстроў культуры. Існуюць іншаземныя пачцівыя словы — **мэтр, маэстра.** У Арменіі дастаткова было вымавіць слова **варпет,** каб усе зразумелі — гутарка ідзе пра Аветыка Ісаакяна. У Таджыкістане слова майстар гучала інакш — **устод,** і кожны ведаў, што так у рэспубліцы называюць Садрыдзіна Айні. Украінец, гаворачы пра Шаўчэнку, скажа **бацька Тарас.** Нарэшце ўспомнім ласкавае **Максімыч** — так звала ўся Расія Горкага.

А мае беларускія сябры гаварылі на фронце:

— Як там наш дзядзька Янка? Таксама сумуе па Мінску...

— Параіцца б з дзядзькам Янкам!

— Дзядзьку Янку б сюды. Вось ён бы напісаў!

Так цёпла, па-сваяцку, але без усякага панібрацтва, па-сяброўску і ў той жа час бясконца пачціва, можна гаварыць толькі пра вельмі роднага, вельмі блізкага і вельмі вялікага чалавека. Чуючы гэтыя ўпамінкі, ад якіх вее любоўю, я фізічна адчуваў прысутнасць мудрага, светлага і душэўнага мастака.

Праз шмат гадоў, перакладаючы вершы Рыгора Барадуліна, з хваляваннем выявіў **той жа зварот,** прыняты і новымі парасткамі паэтаў:

**Если бы грозы все зарыдали,**
**Их чистые слезы**
**Были бы только одной росинкой**
**На ресницах тоски по тебе,**
**Иван Доминикович,**
**Д я д ь к а Я н к а,**
**Купала...**

Вершы Янкі Купалы ведаюць і любяць усе народы нашай краіны. Яго радкі гучаць на дзесятках моваў. З лёгкай рукі Горкага, многія выдатныя паэты палічылі за гонар падарыць свайму народу вершы Купалы.

Зроблена многа. І ўсё ж перакладчыцкае мастацтва яшчэ ў даўгу перад ім. Гэта агульнавядомая ісціна. Справа не толькі ў тым, што пры перакладзе страты непазбежныя, што існуючыя пераклады нераўнацэнныя, што перадаць музыку і водар арыгінала — ды яшчэ такога арыгінала! — неймаверна цяжка, а часам і немагчыма. Справа і ў тым, што не заўсёды ўдалы быў адбор, што ў ранейшыя гады перакладалі больш за ўсё публіцыстычныя вершы, пакідаючы ўбаку глыбіні купалаўскай лірыкі. І яшчэ адно. Клапатліва даносячы ў перакладзе асаблівасці гэтай паэзіі, яе блізкасць да народнай песні, яе глебавую сутнасць, не трэба ўпускаць важнейшую рысу Купалы — многое **беручы,** ён яшчэ больш **аддаваў.** Ён быў інтэлігентам у найвышэйшым сэнсе гэтага слова, асветнікам, шукальнікам, які ўзбагачаў родную мову, уладаром дум. У яго пявучай прастаце складаная аснова. Яго ўплыў шырокі і разнастайны.

Аляксандр Каваленкаў у сваіх успамінах сведчыць, што ў 1936 годзе на Мінскім пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, які ўвайшоў у гісторыю літаратуры, як **паэтычны** пленум, Барыс Пастэрнак у гутарцы з сябрамі захапляўся творчасцю Купалы і Коласа, натхнёна гаварыў аб іх высокай прастаце, яе выдатны беларускі ўзор не выпадкова так паланіў паэта, здавалася б далёкага па гучанні.

Мне здаецца, што гэты прыклад, адзін з незлічоных, гаворыць аб тым, які бязмежны ўплыў Купалы і Коласа на ўсю нашу паэзію.

Мы святкуем юбілейную дату Янкі Купалы (а восенню будзем спраўляць коласаўскія ўрачыстасці) у год, калі спаўняецца паўстагоддзя сузор'ю савецкіх рэспублік.

Якое шчаслівае і знамянальнае супадзенне! Як натуральна і ярка ўпісваецца гэта ўшаноўванне ў нашы агульнанародныя ўрачыстасці. З якой незвычайнай сілай адчуваем мы ў гэтыя дні непарыўнасць Дружбы і Паэзіі.

г. Масква.



Гэты скульптурны партрэт песняра пазнаюць многія, хто прыходзіў пакланіцца яму ў Мінску, у скверык ля тэатра, што носіць яго, Купалы, імя. Цяпер партрэт перанесены ў родную паэту Вязынку...

# «КАЛІ

Варлен БЕЧЫК

ДАЎНО загнездаваў у маёй душы адзін «непрыкметны» купалаўскі верш, і поўніцца з той пары душа яго непазабыўнай прыгажосцю. У верша гэтага — нейкая чарадзейная гаючасць. Напісаны ён аб чалавечай маркоце — і беспрычыннай, і той, што прыходзіць пад момант усведамлення хуткаплыннасці часу, зменлівасці жыцця, а нясе не толькі маркоту — ён і лечыць ад жыццёвага суму, дорыць балючую радасць душэўнага кантакту з быццём, з прыродай, дорыць жыццялюбны настрой і светлую ўдумнасць, дае нейкую асаблівую душэўна-чалавечую прасторнасць. Калі чытаеш, перачытваеш гэты верш Купалы, вольна і плённа сыходзяцца ў сэрцы маркота і радасць, існенна, па-новаму набываюць змест і сэнс уласныя парыванні і няўдачы, па-новаму думаеш аб жыцці, часе, чалавечым лёсе. І аб вершах, аб паэзіі. І аб аўтары верша таксама...

Вось пачатак:

**Калі бывае мне маркотна, —**
**А я маркочуся часцей,**
**Чым гэта думае ахвотна**
**Мой дабрадзей ці ліхадзей, —**
**Тады іду я ў лес нядбала,**
**Каб не мазоліць воч людзям,**
**На мох валюся дзе папала,**
**І ўжо я з пушчай сам-насам...**

Неяк адразу бяруць у палон мяккае святло душэўнасці і шчырасці, прастата і раскаванасць лірычнага перажывання.

Ведаючы, што верш быў напісаны — лічы паўстагоддзя назад — у 1926 годзе, уражваешся, у якім на дзіва простым моўным абліччы паўстае, укладзенае ў вялікі сінтаксічны перыяд (з разгалінаванымі інтанацыйна-сэнсавымі сувязямі і рознымі настраёвымі адценнямі) паэтычнае быццё не надта простай думкі. Такой лёгкай, такой натхнёнай і чыстай здаецца гэтая стылёва-моўная зладжанасць, «калі ўсё надта добра падабрана да зместу», як адзначыў калісьці Максім Багдановіч, гаворачы пра вершы Янкі Купалы. Лірычнае пачуццё выяўляецца свабодна і поўна, ва ўсёй яго тонкасці і зменлівасці — ва ўлонні мілагучнай і чыстай («без плям», як сказаў аднойчы сам Купала), рухомай, сінтаксічна нязмушанай і дакладна арыентаванай на сэнс і настрой паэтычнай мовы, як быццам не скаванай ні фанетычнымі загародкамі, ні рыфмоўкаю, ні метрычнай нормай, — простай у выслове і складанай па сваёй унутранай сутнасці.

А між тым, быццам неўзаметку, усё так істотна выказана, з такою харошай лірычнай напорнасцю! Маркота азвалася ў першай страфе не толькі рыфмай («ахвотна»), але і ўнутраным паўторам («а я **маркочуся** часцей...»). Не так сабе, а ўзмоцніўшыся сэнсавым націскам на слова «часцей», стала трайной другая рыфма (часцей... дабрадзей... ліхадзей). Лес, пушча — месца і аб'ект лірычнага дзеяння — двойчы вылучаныя ў другой страфе сэнсавымі націскамі; «нядбала» і «дзе папала» таксама лучацца не толькі гучаннем, але і сэнсам.

І ўсё гэта пазначана такой ненаўмыснасцю, быццам сталася неспадзеўку, само сабою. А між тым такая «паўторнасць» слоў і сугуччаў, сінтаксічная ўладкаванасць іх у адпаведнасці з сэнсавай нагрузкай вытрымана ў вершы як паслядоўны стылёва-кампазіцыйны прынцып. У наступных страфах лірычныя тэмы таксама будуць акрэсліванца і скразной сугучнасцю, і слоўным паўторам, палярызаваць або яднаць свае сэнсавыя адценні ў іменна-дзеяслоўных парах:

**Ніхто НЕ БАЧЫЦЬ І НЕ ЧУЕ,**
**Аб чым тут гутарку вяду,**
**ДЗЕ думка ДНЮЕ І НАЧУЕ,**
**Сваю хавае ДЗЕ нуду.**

Тут — паўза. Пачуццё адышло ад тлумнага свету, звыклай будзённасці і, не заслоненае аглядкай на яе (выказанай, дарэчы, вельмі сціпла і проста: «Каб не мазоліць вочы людзям»), спакваля пранікаецца лясным быццём. Але перш чым уступіць у пранізлівы кантакт зляснымі шумамі,

# БЕЛАРУСКІ ЖАЎРАНАК У ЛАТВІІ

М. АБОЛА

У АДНЫМ З АРТЫКУЛАЎ латышскі народны паэт Ян Судрабкалн назваў Янку Купалу беларускім жаўранкам... І гэта было сімвалічна: жаўранак адным з першых сустракае зару новага дня... Так і Янка Купала — у змрочны дарэвалюцыйны час верыў у вызваленне, у светлую будучыню свайго народа, будзіў гэтую веру сваімі палымянымі вершамі.

Імя славутага песняра было вядома латышам яшчэ ў часы буржуазнага ладу. Аднак, па вядомых прычынах (рэвалюцыйная накіраванасць паэзіі Янкі Купалы) творы паэта амаль не перакладаліся на латышскую мову, калі не лічыць некалькі вершаў. Але купалаўскае слова ішло да латышоў праз беларусаў, якія пражывалі ў Латвіі. Пісьменнік Я. Ніедрэ праз шмат гадоў ужо ўспамінаў аднаго беларуса, які ў турме расказваў палітзняволеным пра Янку Купалу і з захапленнем чытаў яго вершы. «Тут я ўпершыню пазнаёміўся з творчасцю Янкі Купалы, — гаворыць Я. Ніедрэ, — зразумеў, які ён мілы і дарагі беларускаму народу, якая вялікая яго роля ў беларускай літаратуры».

Больш вядома імя Янкі Купалы было ў Латгальскім краі, у раёнах, населеных беларусамі. Тут неаднаразова ставілася купалаўская «Паўлінка». Першы раз — у 1921 годзе тэатральнай групай беларускіх настаўнікаў у Даўгаўпілсе, другі — у канцы 1922 года. З «Паўлінкі» пачаў тады сваю дзейнасць драматычны гурток толькі што адкрытай Даўгаўпілскай беларускай гімназіі, якім кіравала настаўніца П. Мядзёлка. У 1924 годзе па запрашэнні Райніса гурток гастраляваў у Рызе, дзе паказаў камедыю Янкі Купалы ў нацыянальным тэатры. Райніс прысутнічаў на спектаклі і вельмі станоўча адгукнуўся аб выканаўцах. Пазней купалаўская «Паўлінка» ставілася і другімі беларускімі драматычнымі гурткамі, у прыватнасці, рыжскім народным беларускім тэатрам.

На латышскай мове «Паўлінка» з'явілася на сцэне толькі ў 1949 годзе — яе паставіў Акадэмічны мастацкі тэатр Яна Райніса.

Па-сапраўднаму Янка Купала прыйшоў у латышскае культурнае жыццё ў 1940 годзе, калі ўся савецкая краіна адзначала 35-годдзе літаратурнай дзейнасці паэта. Амаль усе перыядычныя выданні Латвіі публікуюць артыкулы аб беларускім песняры. Купалаўскія творы перакладаюць Я. Судрабкалн, Э. Адамсон, М. Грынфельд, Я. Плаўдзіс, М. Рудзіт. Перакладчыкі выбіраюць галоўным чынам вершы, якія выказваюць светлыя, радасныя настроі паэта ў сувязі з сацыялістычнымі пераўтварэннямі на беларускай зямлі. Гэтыя настроі вельмі перакліканіся з пачуццямі латышскага працоўнага народа ў той незабыўны час, калі Латвія стала сацыялістычнай. Таму святкаванне юбілею Янкі Купалы ператварылася ў важную культурную і палітычную падзею ў жыцці латышоў. Яно садзейнічала ўмацаванню сяброўскіх сувязей абодвух народаў. Важна было і тое, што менавіта Янка Купала — самы нацыянальны з усіх беларускіх пісьменнікаў — быў першы, з якім вельмі блізка пазнаёміліся латышы. Пісьменнікі, што перакладалі яго кнігі, чытачы, якія чыталі гэтыя пераклады і артыкулы аб заснавальніку беларускай нацыянальнай паэзіі, перажывалі пачуцці, блізкія тым, якія так хораша выказаў М. Ісакоўскі: «Вершы Янкі Купалы з'яўляюцца не толькі добрымі, мастацка-высакаякаснымі творамі, але яны з'яўляюцца і своеасаблівай гісторыяй беларуска-

# «БЫВАЕ МНЕ МАРКОТНА...»

са стыхіяй усяго ляснога натуральнага і вольнага жыцця, перш чым сабраць і гарманічна праясніць ім сваю самоту і сваю ўдумнасць, перш чым увайсці назусім у яго духоўнае бязмежжа, паэтава душа «падсумоўвае» ўсю сваю даўнюю дружбу з лесам (і словы «сябры» і «дружба», між іншым, таксама выдзелены націскам):

**А з лесам сябры мы старыя,**
**Не раз праводзілі папас;**
**За сорак год нам дружбу крые,**
**Калі зышліся першы раз.**

У пачуццё, канкрэтызаванае псіхалагічна, тут уводзіцца і аўтабіяграфічная канкрэтнасць. «За сорак год нам дружбу крые...» — у час, калі быў напісаны гэты верш, было паэту за сорак. У гэтай біяграфічнай падрабязнасці была ўнутраная неабходнасць. У ёй тоіцца і памалу пачынае сябе раскрываць зародак новай лірычнай тэмы — роздуму аб лёсе, аб бегу часу і далячынях вечнасці.

**За гэты час, навек схаваны,**
**Шмат мелі ўсякіх лет і зім, —**
**Былі агні, былі туманы,**
**Было ўсяго са мной і з ім.**

Можна зноў і зноў захапляцца, як проста і паслядоўна развіваецца перажыванне, убіраючы гэту новую лірычную тэму — лірычны сум пажыццёвай незваротнасці. «Навек схаваны... лет і зім... былі... былі... было...» Непрыкметна, само сабою адбылося гэтае зліццё двух светаў — «ляснога» і душэўнага («было ўсяго са мной і з ім»). Бездакорна праяўляецца ў вершы і ўнутраны крытэрый душэўнага характва і маральнай чысціні — ва ўсім, што сказана, не адчуваеш ні кропелькі дробязнага, пабочна-выпадковага. Усё вывервана душой, прасякнута светлым гарманічным пачаткам.

Нарэшце паэт поўнасцю акунаецца ў стыхію ляснога характва, у суладнасці з ёю ён здаецца, вось-вось праснкнецца гэтай вечнадзейнай жыццёвай радасцю:

**Цяпер, калі сюды прыду я,**
**Знаёма, ясна як сляза:**
**Усё тыя шышкі лес гадуе,**
**Усё тая ўецца дзермяза.**
**Таксама мох ляжыць, як воўна,—**
**Бы ў пуху песціцца нага;**
**Ад птушак роўна, шуму поўна,**
**Глядзі ды слухай як мага.**

І мажліва, толькі крыху адчуваецца водгалас пачатковага душэўнага настрою — маркоты, супрацьпастаўленай раскашаванню гэтай лясной яснасці. Але і ў гэтым «знешнім», вечным свеце адбываецца рух, і не толькі радасны:

**Сягоння бачу тут бярозку:**
**Была жывой, цяпер ляжыць,—**
**Як маёй смутнай долі цёзку,**
**Паспеў віхор яе скрышыць.**
**Без часу ёй прышлось замерці...**
**Ляжы, гаротная, ляжы,**
**Пакуль не разбяруць па чверці**
**Цябе на дровы ці крыжы!**

Пасля гэтых радкоў стаіць лірычнае шматкроп'е — паэт, здаецца, усёй істотай аддаўся смуткаванню і засяродзіўся на невясёлым роздуме. Так, быццё—вечнае, вечны і лёс—спадарожнік і сувязны людзей і пакаленняў, але жывым і асобным часцінкам яго—і бярозкам, і людзям—наканавана знікаць у небыццё, а людзям — яшчэ і смуткаваць ад гэтага.

Але няспынным застаецца ўсё гэтае вольнае і вечнае існенне жыцця:

**Прыціхне лес ды зноў аб нечым**
**Шуміць, гамоніць, колькі дуж...**
**Вароны ў высі і крык заўзяты**
**Узнялі, бы клянуць сябе,**
**А дзяцел дзюбаю зубатай**
**Дзяўбе сасонку ды дзяўбе.**
**Зязюлька ў тахт «куку» кукуе,**
**Як ёй хто голас натачыў...**

І тут, на гэтым рознагалосым і рознашумным фоне ставіць паэт апошнюю кропку, нечакана і шчымліва вяртаючыся да свайго, асабістага:

**Лічу, ці доўга павякую...**
**Замоўкла... мала налічыў.**

Вось і ўсё. Верш доўжыцца ўжо толькі ў нашай свядомасці. Думаеш, што сапраўды няміога налічыла тая зязюля — пражыць паэту давялося пасля гэтага ўсяго толькі шаснаццаць гадоў. Думаеш аб тым, як многа сказана ў вершы, як шырока разыходзяцца яго лірычныя кругі. Захапляешся, як бліскуча, у духу анталагічнай класікі, выказана адасобленасць «прыроднага» і «душэўнага» і злітнасць іх у лірычным перажыванні, як чуйна адгукаецца пачуццю чатырохстопны ямб з яго ўстойлівымі пропускамі ненаціскных складоў у перадапошняй стапе...

Хочацца яшчэ і яшчэ пабыць у ціхавейным свеце гэтага цудоўнага верша.

Як адзін з ключоў да разумення лірычнай сілы гэтага верша, згадваюцца словы Фета: «Чым больш агульная паэтычная думка, пры ўсёй сваёй яркасці і сіле, чым больш шырока, тонка і няўлоўна разыходзяцца яе кругі, тым болей яна паэтычная».

Але, прыгадаўшы Фета, мы не выводзім гэты верш за межы сацыяльнага кантэксту купалаўскай лірыкі. Не будзем насцярожвацца з таго, што ў вершы пануе маркотны настрой. Хіба само паэтава пачуццё не народжана новай якасцю гарманічнага і яснага светаадчування, хіба не з'яўляецца яно душэўным вынікам **дасягнутай** сацыяльнай роўнасці, на якую Купалава муза адгукалася ўсё больш поўна і ўсебакова. Не выпадкова ў амаль аднучасна напісаным вершы «Улетку» вылілася з душы паэта і другое пачуццё: «Музыка звычная ў свеце,— моўкнуць нягоды напасці... Хочацца думаць як дзеці, верыць, як дзеці, у шчасце».

Паэзія Купалы заўсёды была шматграннай, арыентавалася на ўсё ідэйна-тэматычнае, духоўнае бязмежжа нацыянальнага быцця. Прасякнутая прагай сацыяльнай справядлівасці і нацыянальнай роўнасці, яна ўзбагачала свой пафас пачуццёвай разнастайнасцю, багаццем інтанацый і шматзначнасцю душэўных калізій. Гэта адзначаў яшчэ праніклівы Максім Багдановіч: «Найбольш увагі звяртае на сябе Я. Купала; звяртае не толькі велічынёй сваёй здольнасці, але гібкасцю яе, здольнасцю да ўсестаронняга развіцця».

У выдатнай кнізе Р. Бярозкіна «Свет Купалы» ёсць раздзел «Вершы аднаго года», дзе добра паказана, як у вершах 1926 года «выспявалі ў свядомасці мастака новыя якасці, складваліся новыя рысы, фарміравалася новае ўспрыманне жыцця і яго перспектыў».

Верш «У лесе» стаўся цудоўным вынікам таго вялікага паэтычнага пошуку. Такіх лірычных формул унутранай засяроджанасці і душэўнай адкрытасці, такой духоўнай значнасці і жыццёвай паўнаты і пачуццяў, такой свабоды і паслядоўнасці ў іх выяўленні беларуская паэзія яшчэ не ведала. І ў некаторых іншых вершах («Па Даўгінаўскім гасцінцы», напрыклад) вобраз самога паэта, як слушна зазначыў той жа Бярозкін, «раскрыты ва ўсёй інтымнасці яго рэальна-жыццёвых сувязей». Пазней узяла верх арыентацыя на «калектыўную эмоцыю», і Купала найбольш плённа разгарнуўся на гэтым, «ідэальным» (праўда, часам ідылічным) напрамку. Але намечаны калісьці Купалам шлях да эмацыянальна-псіхалагічнай канкрэтнасці выводзіў нашу паэзію да новых мастацкіх здабыткаў. Можна шырока давесці гэта прыкладамі з Танка, Броўкі Куляшова, Панчанкі і многіх іншых нашых паэтаў. Калі я чытаю ў Аляксея Пысіна:

**Асенні лес, асенні лес,**
**Густых рабін бяздомнае святло.**
**Усё вышэй па дрэве дзяцел лез,**
**А больш нікога ў лесе не было...**

— адразу ажывае ў памяці і купалаўскі верш. Душы ў гэтым смутку — прасторна. Вяртаешся ў свае лясы, лічыш зязюльчынае «куку» і паўней разумееш існы свет і ўласную душу.

Такі гэты купалаўскі верш, сціпла названы — «У лесе».

---

га народа, з усімі яго звычаямі і характарам, з думкамі і імкненнямі народа, з яго барацьбой і перамогай. І, калі я ўпершыню ўзяў у рукі кнігу Янкі Купалы, мяне здзівілі не толькі незабыўныя вершы паэта, а іх асаблівасць, што я як быццам сваімі вачыма бачыў жывую Беларусь з яе раўнінамі і ўзгоркамі, з яе лугамі і лясамі, рэкамі і азёрамі. Я глыбока зразумеў жыццё працавітага беларускага народа. Усім сэрцам я палюбіў Беларусь, хаця ні разу раней там не быў. І таго часу, калі думаю пра Беларусь, мне міжвольна прыходзіць у галаву Янка Купала і, наадварот, калі чытаю Я. Купалу здаецца, што бачу Беларусь, яе цяжкае мінулае і шчаслівае сучаснае».

Па сутнасці, Янка Купала адкрыў латышам дарогу ў багатую беларускую літаратуру, дапамог бліжэй пазнаць, зразумець, палюбіць беларускі народ. Адзін з самых таленавітых латышскіх паэтаў Ояр Вацыецiс у 1969 годзе ў зборніку «Дзень паэзіі» піша: «Я да гэтага часу ведаю напамяць верш Янкі Купалы, які вывучыў у першую пасляваенную восень. Шурпатая, шэра-бурая папера падручніка, і на ёй радкі Купалы Граніт вечны, але калі яшчэ сёння рука адчувае шурпатасць той паперы, то я дазволю сабе аспрэчваць адзінаўладства граніту ў сэнсе вечнасці. Я помню ўсё разам: Янку Купалу, шэра-бурую паперу, расплывістыя літары ў сшытку і, калі хто спытае, на якіх падставах я кажу — «люблю беларускую літаратуру», успомню тую восень. Гэта маё інтымнае «А» ў нашай дружбе.

А апошняя літара? Яе няма. І не будзе».

У чэрвені 1941 года Янка Купала прыязджае ў Рыгу, прысутнічае на першым з'ездзе латышскіх савецкіх пісьменнікаў. Ва ўспамінах пісьменнікаў, з якімі Янка Купала сустракаўся, — ён просты і скромны, нават крыху нясмелы чалавек, які не навязвае субяседніку свой пункт гледжання і ўсё ж прымушае адчуць незвычайнасць сваёй асобы... Я. Ніедрэ ўспамінае, што Янка Купала тады многа цікавіўся малодшым пакаленнем латышскіх пісьменнікаў, Райнісам, яго літаратурнай спадчынай. Яны ж пазнаёміліся яшчэ ў 1926 годзе, калі Райніс быў у Мінску... Паміж абодвума паэтамі ўстанавіліся сардэчныя адносіны, абодвум, такім розным у творчасці, уласціва была глыбокая любоў да сваёй радзімы, мара бачыць свой народ шчаслівым і свабодным.

У час Вялікай Айчыннай вайны Ю. Ванаг па-майстэрску перакладае адзін з самых моцных вершаў Янкі Купалы гэтага перыяду — «Беларускім партызанам». Дарагія ўспаміны захоўваюць аб Янку Купалу латышскія пісьменнікі, якім пашчасціла сустракацца ў тыя суровыя дні з песняром беларускага народа ў Маскве. Ян Судрабкалн пасля смерці паэта прысвячае яму верш «Памяці Купалы».

Асабліва шмат пішуць пра Янку Купалу ў нас у пасляваенны час, шырока адзначаюцца купалаўскія юбілеі, перакладаюцца творы. Сярод перакладчыкаў твораў Янкі Купалы — Г. Галіньш, Я. Грот, А. Крукліс, М. Сілабрыедэ, Н. Віліп, А. Веян. Латышскія пісьменнікі, госцячы на зямлі сваіх беларускіх сяброў, не раз пабывалі ў памятных купалаўскіх месцах, у Вязынцы. Пад уражаннем наведання Вязынкі Ю. Ванаг напісаў верш — «Ліст у Вязынку», а А. Веян — паэму «Залацістае лісце на высокай гары»: аб паездцы Райніса ў Мінск, аб яго сустрэчы з Янкам Купалам.

Калісьці вядомы латышскі пісьменнік А. Упіт пісаў: «Ад свайго і ад імя літаратурнай грамадскасці Савецкай Латвіі заяўляю, што Янка Купала быў і заўсёды будзе гэтак жа блізкі нашаму пісьменніцкаму асяроддзю, як блізкі быў і будзе беларускі народ латышскаму народу ў нашай вялікай шматнацыянальнай савецкай сям'і». Час пацвердзіў праўдзівасць гэтых слоў. Янка Купала жыве ў сэрцах латышоў.

г. Рыга.

# АРМЕНІЯ ШАНУЕ

У Арменіі ведаюць і любяць беларускую паэзію. Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, — усе яны добра знаёмы нашаму чытачу. Але ў кожнага народа ёсць паэт, які яму асабліва дарагі і блізкі. Для беларусаў — гэта Янка Купала, з імем якога звязан росквіт нацыянальнай літаратуры.

Творы Янкі Купалы ў перакладах на армянскую мову пачалі з'яўляцца ў трыццатыя гады на старонках рэспубліканскага друку. У 1935 годзе ў другім нумары часопіса «Советакан гракануцюн» («Советская литература») былі апублікаваны два вершы паэта «Хвалююцца морскія хвалі» і «Новая восень». У тым жа годзе часопіс пазнаёміў чытачоў з паэмай «Барысаў», а яшчэ праз два гады выйшла ў свет паэма «Курган» у выдатным перакладзе паэта і драматурга Гургена Бар'яна. У гэтыя гады народны паэт Беларусі набывае ў Арменіі вялікую папулярнасць. Многія яго творы ўваходзяць у школьныя хрэстаматыі.

У верасні 1939 года Я. Купала прыязджае ў Ерэван на святкаванне тысячагоддзя армянскага гераічнага эпаса «Давід Сасунскі». У сваіх выступленнях перад працоўнымі, дзелячыся ўражаннямі аб убачаным у нашым краі і расказваючы пра Беларусь, ён заклікаў да яшчэ большага ўмацавання дружбы паміж народамі. На ўрачыстым пасяджэнні Янка Купала сказаў: «У вашу краіну гор і бурных рэк, вінаградных садоў і крыштальных ручаёў мяне паслаў народ краіны дрымучых лясоў і ціхіх рэк. Па-рознаму цудоўныя нашы краіны, але адна і тая ж жыве ў іх душа. З аднолькавай сілай расце ў іх і развіваецца народнае жыццё».

У гады акупацыі Беларусі фашысцкімі захопнікамі паэт далучае да магутнай сілы паэтычнага слова грозную зброю публіцыстыкі. З-пад яго пяра выходзяць палымяныя артыкулы — звароты «Заклік да беларускага народа», «Германскі фашызм — злейшы вораг беларускага народа», «Вышэй сцяг за свабоду і незалежнасць» і іншыя. Артыкул «Ніколі не будуць беларусы рабамі нямецкіх баронаў» быў перакладзен на армянскую мову і выдадзен у 1941 годзе асобнай брашурай.

У пасляваенныя гады вялікая група перакладчыкаў узялася за падрыхтоўку зборніка выбраных твораў Янкі Купалы. Зборнік гэты выйшаў у 1951 годзе і з'явіўся вялікай падзеяй ў нашай літаратуры. У яго ўвайшло больш як пяцьдзесят лепшых вершаў паэта. На жаль, пераклады рабіліся з рускай мовы. Акрамя таго, перакладалі іх 12 паэтаў. Калі мець на ўвазе, што ў розных перакладчыкаў розная ступень набліжанасці да арыгінала ў галіне стылю, інтанцыі, эмацыянальнасці і да т. п., можна зразумець, чаму ў выданні сустракаюцца розныя па якасці пераклады. Задача перакладчыкаў ускладнялася і тым, што яны перакладалі паэта з высокай паэтычнай тэхнікай, народнасцю вобразаў і мовы, з выключнай абаяльнасцю і музычнасцю вершаванага радка. Цяжка не разгубіць гэтых асаблівасцей купалаўскай паэзіі. Тут перакладчык павінен апрача паэтычнага дару валодаць добрай успрымальнасцю і ўменнем ужывацца ў духоўны свет аўтара, улоўліваць танчэйшыя адценні яго верша.

Добрымі армянскімі вершамі здолелі перадаць паэзію Купалы Н. Зар'ян («А хто там ідзе», «Алеся», «Хлопчык і лётчык»), Агаўні («Мужык»), Г. Камуні («Там») і многія іншыя.

«Янка Купала — гэта першая з вяршынь беларускага Эльбруса паэзіі, — пісаў Паўло Тычына. — Яна і чыстая і высокая. Высокая, бо матывамі сваімі праўдзівая. Чыстая, бо мілагучная і майстэрская, а магутная, бо заўсёды была яна з народам». Так, паэзія, у кожны радок якой паэт укладае душу і сэрца, любоў да народа, — нікога не можа пакідаць раўнадушным. Яна набывае інтэрнацыянальны, агульначалавечы характар. Менавіта гэтыя якасці купалаўскай лірыкі прымушаюць перакладчыкаў брацца за цяжкую і высакародную справу— азнаямленне мільёнаў новых чытачоў з неацэннай спадчынай выдатнага паэта.

Ашот ГАБРЫЕЛЯН.

СЦЕЖКАМІ, ШТО ПОМНЯЦЬ ЯГО КРОКІ

# У СЭРЦЫ ЯГО ЖЫЛА ЛАГОЙШЧЫНА

НА МІНШЧЫНЕ, а то, бадай, і на ўсёй Беларусі не знойдзеш больш маляўнічай мясцовасці, чым Лагойшчына. Лясістыя пагоркі, пакручастыя рачулкі і люстэркавыя азёры, пясчаныя выспы і поруч з імі — балотцы, парослыя асакой і лазоўнікам, зялёныя — у садах і прысадах — вёскі і вёсачкі — усё гэта пакідае незабыўнае ўражанне.

Кожная паваротка дарогі прыносіць новае захапленне: то ціхія і вясёлыя палянкі сярод сонечнага бярэзніку, то высокія залацістыя сцены сасновага бору, то блакітнае азярцо і заліўны луг вакол яго.

«Край бацькоў, Лагойшчына мая...» Гэта сказаў шмат гадоў пасля другі паэт, узгадаваны тут, на Лагойшчыне. Але тое самае, бадай, мог сказаць і ён, наш неўміручы Янка Купала. І гэта было б зусім справядліва: жыццёвыя сцежкі неаднойчы прыводзілі яго сюды. Правільней будзе, мусіць, сказаць так: ягоныя жыццёвыя сцежкі тут пачаліся.

На Лагойшчыне прайшлі дзіцячыя і юначыя гады будучага песняра роднай зямлі: спачатку ў фальварках і маёнтку Косіна (з канца 1886 па 1889 год), дзе малы Янка зрабіў першыя крокі ў навуку пад кіраўніцтвам вандроўнага настаўніка Патаповіча; потым — у Прудзішчы (1891 — 1895), дзе яшчэ і зараз старыя людзі памятаюць сям'ю Луцэвічаў і іх маладога Янку; затым (1895—1904) — у Селішчы, дзе будучаму паэту давялося пісаць аповесць свайго жыцця сахой ды касой на службе ў тутэйшага пана. Тут, на Лагойшчыне, Янка Луцэвіч у 1897—1898 гадах вучыўся ў Беларуцкім народным вучылішчы.

І пасля шмат гадоў ягонага жыцця самым цесным чынам былі звязаны з гэтым маляўнічым кутком роднай зямлі — найперш з невялікім хутарам Акопы непадалёк ад вёскі Вялікія Бесяды. Адсюль, з глухога зацішку, атрымалі пуцёўку ў жыццё драматычныя творы Янкі Купалы «Прымакі», «Раскіданае гняздо» і «Паўлінка», паэмы «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я», вершы «З недацветаў», «Гэй, наперад», «Як у лесе зацвіталі», «Царства хохліка» і многія іншыя. Сюды ён прыязджаў да маці на канікулы, калі вучыўся ў Пецярбурзе (1909—1913) на агульнаадукацыйных курсах Чарняева.

1912 — 1913 гады з'яўляюцца гадамі росквіту творчай дзейнасці песняра. Гэтыя гады даследчыкі жыцця і творчасці Янкі Купалы па праве называюць «Болдзінскай восенню» песняра. Несумненна, што стварэнню такога інтэнсіўнага творчага настрою паспрыяла і родная Лагойшчына, яе прырода і людзі. Тут ён чэрпаў натхненне, фарбы і гукі, тут знаходзіў тэмы і матывы, тут угледзеў прататыпы сваіх драматургічных твораў, у прыватнасці, неўміручай «Паўлінкі».

Так, Уладзімір Карпаў адзначаў: «Можна лічыць абсалютна даведзеным, што «Раскіданае гняздо» і «Паўлінка» пабудаваны на канкрэтных жыццёвых фактах, з захаваннем найбольш характэрных дэталей і адзнак іх. Добра ведаючы побыт, асабліва сялянства, Купала перанёс на сцэну беларускае жыццё ва ўсёй яго самабытнасці і натуральнасці. Жыццё беларускай вёскі з яго бядой і радасцямі, нястачамі, з патаемнымі думамі і марамі, сілай, слабасцю вясковага чалавека; паэзія і проза гэтага жыцця, праца і адпачынак, звычаі і народная гутарка — усё гэта цудоўна адлюстравалася ў п'есах Купалы».

Мне, ураджэнцу Лагойшчыны, хочацца да гэтага дадаць толькі вось што: у п'есах Купалы адлюстравалася жыццё ўвогуле беларускай вёскі і, у прыватнасці, вёскі лагойскай. Спашлюся тут на ўспаміны сястры паэта Ганны Дамінікаўны, якая гаварыла, што ўсе ці амаль ўсе дзейныя асобы «Паўлінкі» мелі сваіх рэальных прататыпаў. Гэта былі знаёмыя і незнаёмыя паэту людзі з ваколіц хутара Акопы. За вобразам Адольфа Быкоўскага ўгадваўся Павэлак Ваяводскі, «які жыў у Чаховіча на Калдукоўцы». Гэта быў сапраўды ганарлівы шляхцюк, які ні сам, ні ягоныя чатыры дачкі ніколі не апускаліся да гаворкі з сялянамі. У Сцяпане Крыніцкім угадваўся Гілярый Аблачымскі, у Пустарэвічу — Пранцішак Аблачымскі, брат Гілярыя, скнара і п'яніца. Правобразам Паўлінкі паслужыла дачка Гілярыя Ядзя— вельмі прыгожая дзяўчына з цудоўным голасам, у якую нібыта быў закаханы і сам паэт. Меў прататыпа і Якім Сарока — гэта быў настаўнік Мечыслаў Багдановіч, стрыечны брат Ядзі, які жыў у хаце Гілярыя, кахаў дзяўчыну і нешчасліва сватаўся да яе.

Ганна Дамінікаўна прыгадвае вельмі красамоўны і паказальны ў гэтых адносінах факт. Калі Пранцішак Аблачымскі ўбачыў «Паўлінку» на сцэне, ён доўга кляў «дзіводлупісьменніка», пляваўся ад злосці і перастаў нават вітацца з Купалам. Уся ваколіца ўгадвала за персанажамі камедыі сваіх знаёмых і ад душы рагатала і кпіла з іх...

5 чэрвеня 1912 года Янка Купала пісаў з Акопаў у Пецярбург прафесару Б. Эпімах-Шыпілу: «Напісаў у двух актах камедыю, каторую чытаў Лявіцкаму, і ён казаў, што напісана дарэчы. Камедыя называецца «Паўлінка», напісана прозай з шляхецкага жыцця». З Лявіцкім — пісьменнікам Ядвігіным Ш. — пясняр пазнаёміўся недзе ў 1904—1906 гадах. З 1897 года Ядвігін Ш. жыў таксама на Лагойшчыне ў невялікім фальварку Карпілаўка, непадалёк ад Селішча.

Янка Купала называе Ядвігіна Ш. у ліку тых пісьменнікаў, хто ў пачатку літаратурнага шляху заахвочвалі яго да мастацкай творчасці. У адным з пісьмаў паэт прыгадваў: «у перыяд 1904—1906 гг. я пазнаёміўся з Ядвігіным Ш. (жылі мы па суседстве). Гэта была для мяне вялікая падзея, бо ўпершыню сутыкнуўся з чалавекам, які не толькі пісьменнік, якога друкуюць, але і піша па-беларуску. З Ядвігіным Ш. я вельмі зблізіўся. Ён шмат расказваў пра незнаёмыя мне да таго часу пісьменніцкія справы і г. д. Чалавек ён быў з вышэйшай адукацыяй (праўда, універсітэта з-за рэвалюцыйных спраў не скончыў), пры тым вельмі цікавы і даступны субяседнік».

Лагойшчына выпеставала і другога добрага сябру Янкі Купалы, самабытнага празаіка і паэта Змітрака Бядулю. На іх шматгадовае шчырае сяброўства ўплывала не толькі сумесная праца ў рэдакцыі «Нашай нівы», агульны клопат аб развіцці роднай літаратуры, але, пэўна, і адчуванне зямляцтва, пачуццё прывязанасці да маляўнічых пагоркаў і лясоў бацькоўскага кута.

Урэшце, варта віддаць, прыгадаць і тое, што на Лагойшчыне, на старасвецкіх могілках паблізу вёскі Корань, знайшоў вечны спакой бацька паэта Дамінік Луцэвіч, яго брат Казік і дзве сястры — Гэля і Сабіна...

У гэтыя ліпеньскія дні на дарогах Лагойшчыны шмат турыстаў і падарожнікаў. Едуць і ідуць сюды людзі здалёк і зблізку. І цікавяцца яны не толькі мемарыяльным комплексам Хатынь і мясцінамі гераічнай барацьбы партызанскіх брыгад і атрадаў. Іх вабяць сюды і Купалаўскія сцежкі, прыгажосць гэтага куточка роднай зямлі, які так шмат даў для абуджэння і росквіту творчасці нашага народнага песняра і які праз усё жыццё пранёс яго ў сваім сэрцы.

С. АКУЛІЧ, мастак.

# ПЕСНЯРАМ ПРЫСВЕЧАНЫ




У ГЭТЫЯ дні радаснай падзеяй стаў выхад у свет альбома з дзвюх манафанічных грампласцінак тыпу «Гігант», прысвечаных творчасці карыфеяў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Усесаюзная фірма «Мелодыя», правёўшы вялікую работу па рэстаўрацыі запісаў галасоў Я. Купалы і Я. Коласа, якія захоўваюцца ў фондах Беларускага радыё, паднесла выдатны падарунак прыхільнікам двух вялікіх паэтаў.

Грандыёзная па размаху, шырыні дыяпазону, незвычайна багатая па змесце творчасць кожнага з паэтаў прывабіла шмат беларускіх кампазітараў (дастаткова заўважыць, што на тэксты Я. Купалы напісана звыш 200 музычных твораў). Таму цалкам прымальнай аказалася форма музычна-літаратурнай кампазіцыі. На працягу трох гадзін нас не пакідае хвалюючае пачуццё сустрэчы з велізарным светам вялікіх майстроў.

Грампласцінка, прысвечаная Янку Купалу, адкрываецца запісамі вершаў «Песні патрэбны нам» (своеасаблівым прывітаннем Першаму усесаюзнаму з'езду савецкіх пісьменнікаў) і «Песняй будаўніцтву» у аўтарскім прачытанні. Голас Янкі Купалы гучыць неяк па-асабліваму, цёпла і чалавечна. Шчырая ўсхваляванасць інтанацыі Я. Купалы глыбока западае ў сэрца...

Хочацца адзначыць выдатнае выкананне Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлай БССР пад кіраўніцтвам Р. Шырмы хораў Я. Цікоцкага «Зайшло ўжо сонейка», С. Палонскага «Вечарынка» і А. Багатырова «Дзень добры, Масква!».

Арганічна ўліліся ў кампазіцыю галасы вядомых беларускіх спевакоў М. Дзянісава, Л. Александроўскай, Т. Ніжнікавай, якія спяваюць рамансы Р. Пукста «Шумныя бярозы» і «Восень», В. Яфімава «Я—калгасніца».

Значнае месца ў праграме купалаўскага дыска займае літаратурна-музычная кампазіцыя па паэме «Курган» у выкананні Б. Платонава і цымбалістаў С. Навіцкага і Х. Шмелькіна. Сярэбраны звон цымбал як бы пераклікаецца з празрыстай гучнасцю верша Купалы.

Трэцяя і чацвёртая старонкі альбома прысвечаны творчасці Якуба Коласа. Праграма літаратурна-музычнай кампазіцыі адкрываецца заключным словам паэта на вечары, прысвечаным яго 70-годдзю і аўтарскім чытаннем верша «Савецкія дні».

Цікавыя і разнастайныя творы беларускіх кампазітараў, напісаныя на вершы Я. Коласа—кантаты, хоры, сімфанічныя творы, опера, рамансы. Частка з іх уключана ў праграму дыска ў выкананні вядучых калектываў рэспублікі.

Пейзажную замалёўку М. Чуркіна «На полі вясной» з тонкім разуменнем акварэльнай празрыстасці вершаў Я. Коласа выконвае хор Беларускага тэлебачання і радыё пад кіраўніцтвам В. Роўды.

Выдатны спявак М. Ворвулеў і аркестр опернага тэатра БССР (дырыжоры Т. Каламійцава і І. Абраміс) запісалі два фрагменты з оперы А. Багатырова «У пушчах Палесся» па матывах аповесці Я. Коласа «Дрыгва».

Расказ пра альбом, прысвечаны паэзіі Я. Коласа, будзе няпоўным, калі не ўпамянуць аб літаратурных запісах.

Урывак з паэмы «Новая зямля» чытае В. Тарасаў. У невялікім фрагменце «Дзядзька-кухар» артыст выдатна перадае тонкі, лагодны, незласлівы гумар Я. Коласа.

Л. Рахленка запісаў фрагмент з першай часткі трылогіі «На ростанях».

Пасля праслухоўвання пласцінак не ўзнікае сумнення ў тым, што яны не залежацца на прылаўках магазінаў. З гэтымі пласцінкамі расстаешся, як з добрымі кнігамі, калі, загортваючы апошнюю старонку, ведаеш, што абавязкова вернешся да іх зноў. Выпушчаны пласцінкі ў прыгожых канвертах з анатацыяй музыказнаўцы С. Нісневіч. Хацелася б, каб на канвертах яшчэ былі імёны рэдактараў, рэжысёраў, аператараў, якія рыхтавалі гэтыя выдатныя дыскі.

Ул. ЯФРЭМАЎ.

# СВАЁ І

ЯК ВЯЛІКІ нацыянальны паэт Купала рос, фарміраваўся і стаў вялікім на сваёй роднай глебе.

Але вытокі купалаўскага мастацтва значна шырэйшыя. У вядомым аўтабіяграфічным лісце да Клейнбарта паэт пісаў: «З польскіх аўтараў на мяне вялікае ўражанне рабілі Выспянскі, Славацкі, Міцкевіч, часткова Крашэўскі сваімі гістарычнымі раманамі».

Цікава, чаму Купала сярод польскіх аўтараў першым назваў прозвішча Станіслава Выспянскага, што ў творчасці гэтага паэта і драматурга магло прыцягваць увагу беларускага песняра?

Спадчына Выспянскага багатая і разнастайная. У ёй пачэснае месца заняла графіка, жывапіс, выяўленчае мастацтва, манументальны роспіс, паэзія і драматургія. Але якой шматграннай ні была б творчая дзейнасць Выспянскага, яна не перашкодзіла яму сканцэнтраваць свае намаганні на драматургіі. У гэтым сінтэтычным жанры ў канцы XIX стагоддзя Выспянскі ў польскай літаратуры не меў сабе роўных.

Прыход Выспянскага на польскую сцэну быў выкліканы, як нам здаецца, дзвюма прычынамі: імкненнем працягваць на сцэне рэвалюцыйныя традыцыі міцкевічаўскіх «Дзядаў» і па-свойму ў перыяд абвостранага развіцця капіталістычных адносін асэнсаваць нацыянальна-вызваленчую ідэю польскага народа.

Купала ўваходзіў у беларускую літаратуру якраз тады, калі імя Выспянскага-драматурга не сыходзіла з тэатральных афіш Кракава, Варшавы, Львова, Лодзі, Вільні. Так, з 1901 года пачала сваё сцэнічнае жыццё на падмостках Львоўскага тэатра «Варшавянка». Следам за ёю— «Вызваленне» (1903), «Легенда» (1905), «Пракляцце» (1909). Але найбольшай папулярнасцю ў тагачаснага гледача карысталася драма «Вяселле».

Пасля прэм'еры ў Кракаўскім тэатры (1901) яна хутка з польскай трупай абышла Нью-Йорк, Парыж, Прагу і Вену. У Маскве «Вяселле» ставілася Станіслаўскім у 1916 годзе.

Прыезд Купалы на працу ў Вільню (1908) па гадах якраз супаў з цвёрдым замацаваннем «Вяселля» (1907) на віленскай сцэне. Зараз цяжка ўстанавіць, калі і на якіх спектаклях бываў Купала. Але застаецца бясспрэчным факт, што беларускі паэт добра быў знаёмы з творамі Выспянскага наогул і спектаклем «Вяселле» ў прыватнасці. І што знаёмства гэтае не прапала дарэмна.

Купала заўжды шукаў. Жывучы ў Вільні, ён актыўна цікавіўся тэатральным жыццём і па-свойму рэагаваў на яго. Так было са спектаклем па п'есе Пшыбышэўскага «Снег», калі пад яго ўражаннем у Купалы ўзнік аднайменны верш-імправізацыя.

Але галоўнае не ў гэтым пабочным эпізодзе, а ў тым, што Купала чуйна ўбіраў у сябе пошукі грамадскай і мастацкай думкі свайго часу і трансфармаваў гэта ва ўласную творчасць.

У Выспянскага Купалу магла прыцягнуць навізна ў трактоўцы вобразаў, адчуванне народнай сілы, бачанне перспектывы і, што вельмі важна, пафас адмаўлення ў імя сцверджання новага ідэалу.

Купала думаў тады над «Адвечнай песняй». І над «Раскіданым гняздом».

Ён думаў пра стварэнне драматургічнага твора, які мог бы ўвасобіцца на сцэне, бо тады ў Беларусі быў ужо і І. Буйніцкі.

Цікавасць Купалы да Выспянскага выклікалася як самім часам, так і надзённымі клопатамі нацыянальнай драматургіі. Гэта, як мы ведаем, выявілася пазней і ў «Паўлінцы» і ў «Раскіданым гняздзе».

Цікавымі былі для Купалы адносіны Выспянскага да беларускага фальклору, якія ён скарыстоўваў у сваёй творчасці.

У беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя Купала першым пракладваў шлях рэвалюцыйнай паэзіі, адкрываючы зусім новы погляд на чалавека-працаўні-

# «ПАСЫЛАЮ ТАБЕ ЖМЕНЮ ВЕРШАЎ...»

*Апошні набытак нашага архіва—новыя матэрыялы, прысвечаныя Я. Купалу. У іх ліку—лісты Янкі Купалы да Сяргея Мітрафанавіча Гарадзецкага, якія зусім нядаўна, у красавіку гэтага года, перадала нам літаратуразнаўца з Арменіі Ірма Сафразбекян.*

*У гэтых лістах вядзецца гутарка аб творчых сувязях беларускага і рускага паэтаў, аб перакладах вершаў Купалы на рускую мову.*

**К. ЖОРАВА,**
**дырэктар Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва БССР.**

**15.VII.35.**

Дарагі Сяргей Мітрафанавіч! Я сардэчна ўдзячны за пераклад «Беларусі»... Але горш за ўсё — жонка гаворыць, што лепш арыгінала. Гэта ўжо нікуды не варта. Цяпер мяне цікавіць, як ён папаў у «Рабочую Москву», калі я даў яго толькі ў «Известия». Чаго добрага, абвінавацяць мяне ў рвацтве. Цяпер, у якую газету пападуць «Алеся» і «Дарогі». Я даў у «Рабочую Москву». Мне вельмі і вельмі прыемна, што табе падабалася «Алеся». На маю думку, у тваім перакладзе яна яшчэ больш усім падабаецца.

Мілы Сяргей! Пасылаю табе яшчэ жменю вершаў. Калі знойдзеш час і спадабаецца — перакладзі сам, мяне гэтым толькі ўзрадуеш, а калі не, то перадай другім (Галоднаму, Ісакоўскаму). Змесціш іх па свайму меркаванню (калі падыдуць). «Беларусі ардэнаноснай» надрукаван толькі ўрывак. Можа быць, поўнасцю пайшло б у «Новый мир».

У «Новый мир» дай яшчэ што-небудзь, а то мне неяк няёмка перад тав. Гронскім, тым болей, здаецца, маё прозвішча фігуруе ў ліку супрацоўнікаў часопіса.

Зразумела, дай, што знойдзеш больш падыходзячым, у «Правду». Здарылася неяк у мяне з «Правдой» узаемная любоў; не скупіцца ў друкаванні маіх вершаў.

Яшчэ прасіў бы цябе, знайшоўшы свабодную мінуту, пазваніць у «Рабочую Москву», у «Пионерскую правду»., каб мне выслалі нумары з маімі вершамі. А то, цікава, былі ў Мінску прадстаўнікі многіх маскоўскіх і кіеўскіх газет, абяцалі выслаць газеты з маім матэрыялам, і толькі я іх бачыў! Больш не падвядуць. «Известия» і «Правду» я атрымліваю. Дарэчы, у рэдакцыі «Правды» ляжаць мае два вершы, якія зрабілі тут моцнае ўражанне і атрымаў за іх вялікую пахвалу ад нашага сакратара ЦК. Даведайся, што з імі, але далікатна. Можа дадуць табе перакласці. Цяпер вось што, мой дружа Сяргей. Сядай у цягнік і прыязджай да мяне ў госці. Мяне ў Мінску не застанеш. Заўтра (16.VII) выязджаю зноў у Аршанскі раён, нешта быццам на дачу. Як толькі прыедзеш, жонка мая завязе цябе да мяне ў лес над Дняпром, дзе колькі захочаш, правядзеш цудоўна час... Значыць згодзен? Ехаць прыдзецца поездам да Оршы (можа і машынай), калі пападзецца, а з Оршы 20 км—«фордам». Жонка мая таксама вельмі просіць.

Твой Янка.

Сардэчны прывет ад жонкі.

**16.VII.35.**

...К табе мая вялікая просьба: не змог бы ты перакласці гэтыя вершы «Старыя акопы» і «Госці» і змясціць іх у адной з маскоўскіх газет ці часопісе. Можа быць і «Правда» не адкажацца, тым больш, што «Старыя акопы» надрукаваны ў спецыяльнай чыгуначнай газеце. Наогул табе відней, што трэба зрабіць. Надрукаваны верш у «Гудку» ў № ад 11.VII.35.

Значыць афіцыйная частка ўся.

А цяпер паўтараю сваё запрашэнне прыехаць да мяне ў лес над Дняпром. Часовы мой адрас (каля месяца) — БССР, Копысь Аршанскага р-на, Лесаўчастак. Сардэчны прывет. Твой Янка.

# НА БЛАНКУ ВЫДАВЕЦТВА

**У СЛОНІМЕ ў невялічкім доміку па Чырвонаармейскай вуліцы жыў паэт-нашанівец Гальяш Леўчык. Памяшканне яго нагадвала музей — шмат у ім было кніг, часопісаў, камплектаў газет, фатаграфій, малюнкаў (Гальяш быў добрым мастаком і музыкантам). 14 лістапада 1939 года наведаў Гальяша Леўчыка ягоны даўнейшы сябра Янка Купала.**

**Гальяш загінуў у Варшаве ў часе гітлераўскай акупацыі, загінула і яго багатая бібліятэка. А на пачатку 1940 года жонка Г. Леўчыка Зося Ляўковіч перадала архіў мужа Слонімскаму гісторыка-краязнаўчаму музею. Сярод матэрыялаў архіва значную цікавасць мае ліст Я. Купалы да Гальяша Леўчыка на бланку Беларускага выдавецкага таварыства ад 7 лютага 1914 года:**

**«Паважаны пане! Вашага «Чыжыка» аддалі ўжо друкаваць рускімі літарамі. Будзьце ласкавы прыслаць найхутчэй клішэ вокладкі і Вашай фатаграфіі. Калі маеце зрабіць якія папраўкі, то прышліце папраўлены экземпляр.**

**Астаюся са шчырай да Вас пашанай сакратар Беларускага выдавецтва Ів. Луцэвіч.**

**P. S. Апошнюю карэктуру кніжкі прасілі б, каб Вы самі зрабілі. Ів. Л.».**

**Ліст гэты разам з усім архівам Г. Леўчыка захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі. Ці не варта было б перадаць ліст літаратурнаму музею Янкі Купалы?**

**Сяргей НОВІК-ПЯЮН.**

# ЧУЖОЕ

ка. Зразумела, што ідэі вольнасці і свабоды, якія падхапіў Выспянскі ад польскіх рэвалюцыйных рамантыкаў, высокія ўзоры філасофскага зместу, псіхалагічнага напружання былі блізкімі купалаўскаму мастацтву.

Але найбольшую зацікаўленасць у Купалы выклікала драма «Вяселле». Вытлумачыць гэта можна разуменнем Купалам складаных адносін паміж народам і інтэлігенцыяй. У аснову п'есы «Вяселле», як вядома, леглі ўражанні самога аўтара ад вяселля ў вёсцы пад Кракавам у 1900 годзе. Зусім іншага характару, але таксама сапраўдны эпізод з сямейнай хронікі Луцэвічаў выкарыстаў Купала ў якасці зыходнага матыву пры напісанні драмы «Раскіданае гняздо». Гэтую не зусім блізкую паралель мы прыводзім у сувязі з тым, што далей прыйдзецца спасылацца на «Вяселле» і «Раскіданае гняздо».

Запрасіўшы на вяселле гасцей ад усіх сацыяльных пластоў — і сялян, і памешчыка, і буржуазнага журналіста, і ксяндза, і карчмара, і паэта-эстэта, і «прыхільніцу чыстага мастацтва», — Выспянскі ў сваёй драме рашуча абвергнуў ідылію класавага салідарызму буржуазных прадстаўнікоў з народа. Праз традыцыйную атмасферу добразычлівасці, спрэчак, жартаў аўтар прачытаў думкі кожнага ўдзельніка «вяселля» па важнейшых пытаннях сучаснага жыцця, палітыкі, літаратуры, маралі. Але на пераломе, калі настаў час са зброяй узняцца за радзіму, ніхто, акрамя сялян, не выказаў гатоўнасці.

У «Вяселлі» як нельга лепей раскрыўся сялянскі дэмакратызм Выспянскага, яго моцныя і слабыя бакі. Як слушна адзначала прафесійная крытыка, аўтар, аднак, не запрасіў на традыцыйны вясельны стол прадстаўнікоў рабочага класа...

Калі гаварыць пра дэмакратызм купалаўскі, то яго ні ў якім разе нельга атоесамляць з дэмакратызмам Выспянскага. Нельга па той простай прычыне, што спецыфічна-тэатральная, прафесійная, прапагандысцкая мэты ў Купалы — выкліканы самім жыццём.

Для параўнання возьмем дзве сцэны з «Вяселля» і «Раскіданага гнязда», — фінальныя. Пад уздзеяннем прапаганды Вярнігары сяляне Чапец, Ясек, Гаспадар збіраюць народ, узброены косамі. Усе чакаюць сігнала. Але гістарычная хвіліна не наступіла. Справа прайграна. У гэты момант Саламянае пудзіла - здзекліва прапанавала прэч адкінуць косы і аддацца чуллівым гукам вясельнай музыкі. На прапанову Ясека сядаць на коней і са зброяй імчацца на Вавель, яно злосна секанула: «Дарэмна ты, хам, тут балбочаш, нікому ты не патрэбны».

Купала доўга не пакідаў працы над вобразам Незнаёмага. Пасля драматызаванай паэмы «На папасе» (1908) ён зноў вярнуўся да Незнаёмага ў «Раскіданым гняздзе» (1913). Мэта такога звароту — ідэйнае паглыбленне праблемы сацыяльнай рэвалюцыі, якая рабілася тым часам практычнай неабходнасцю ў беларускай вёсцы. У Купалы Незнаёмы ў адрозненне ад апаэтызаванага легендарнага героя-алегорыі ў «Вяселлі» Выспянскага — свядомы змагар за народнае шчасце.

Цікава адзначыць і наступнае. У Выспянскага фантастычныя персанажы вельмі часта носяць умоўна-тэатральны характар, чаго не заўважаеш у Купалы.

Да таго ж не трэба разумець, быццам праблематыку Купалы трэба выводзіць з Выспянскага. Праблемамі, закранутымі Выспянскім і Купалам, па-свойму жылі ў пачатку стагоддзя М. Горкі, А. Блок, Л. Андрэеў.

Важнае адно: захапленне Купалы Выспянскім ніколі не было механічным, а мела свой адметны кірунак і характар.

**С. ДРОЗД,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры СШ № 15 г. Гродна.



Госць з Італіі Антоніа Дзаболі.

*ХАТЫНЬ — наш боль. Хатынь — вечны агонь бессмяротнасці.*

*У гэтыя дні слова «Хатынь» гучыць на розных мовах свету: рускай і японскай, нямецкай і польскай, італьянскай і хіндзі. Прадстаўнікі 11 замежных краін, а таксама братніх савецкіх рэспублік прыехалі ў Мінск на міжнародную сустрэчу барацьбітоў за мір, якая праходзіць пад дэвізам «Хай ніколі не паўторыцца трагедыя Хатыні, Лідзіцэ, Арадура, Хірасімы, Сангмі».*

*На беларускай зямлі сабраліся прадстаўнікі розных народаў, каб нагадаць пра бедствы, што прынёс чалавецтву фашызм, асудзіць агрэсію.*

*Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» звярнулася да некаторых удзельнікаў сустрэчы з просьбай падзяліцца сваімі думкамі аб Мінскім форуме прыхільнікаў міру.*

# ЗВАНЫ ХАТЫНІ КЛІЧУЦЬ!..

**Анры БАР'ЕР (Францыя),**
**член нацыянальнага камітэта таварыства «Францыя—СССР», муніцыпальны саветнік горада Сен-Жуньен:**

— Сен-Жуньен — невялічкі гарадок за дзесяць кіламетраў ад вёскі Арадур. Трагедыя Арадура вядома ўсяму свету. Як Лідзіцэ, як Хатынь, як тысячы і тысячы гарадоў і вёсак, знішчаных фашыстамі ў час мінулай вайны, Арадур стаў сімвалам «новага парадку», што нёс народам свету гітлерызм. З таго страшнага ліпеньскага дня 1944 года, калі карнікі знішчылі 635 мірных жыхароў Арадура, сплыло 28 гадоў. Але мы ні на дзень не забыліся пра пакуты нашых братоў і сёстраў. І колькі будзе жыць чалавецтва, столькі трагедыя Арадура, Лідзіцэ, Хатыні будзе служыць напамінкам аб фашызме і суровым папярэджаннем супраць любога віду агрэсіі, якая нясе гора і пакуты народам.

**Барбара МАУСБАХ-БРОМБЕРГЕР (ФРГ),**
**член прэзідыума аб'яднання асоб, якія праследаваліся пры нацызме:**

— Я ўпершыню ў Савецкім Саюзе і вельмі многага чакаю ад сустрэчы, якая праходзіць у Мінску. Барацьба за мір — гэта самая важная праблема нашага кантынента. Яна актуальная і для народа Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Трагічныя падзеі мінулага толькі ўзмацняюць ўвагу да важнейшых пытанняў сучаснасці. Асноўная работа арганізацыі, якую я прадстаўляю, — гэта барацьба за захаванне міру. Мы дзейнічаем у цесным саюзе з нямецкімі антыфашыстамі. Многія члены нашай арганізацыі — удзельнікі барацьбы з фашызмам. Гэта былыя вязні канцлагераў, турмаў, фашысцкіх засценкаў.

У ФРГ існуюць яшчэ сілы, якія хацелі б павярнуць гісторыю назад. Ім патрэбна вайна для рэваншу. Дарэчы, дзейнасць нашай арганізацыі дазволена не ва ўсіх землях ФРГ.



З. Азгур з украінскім пісьменнікам Н. Рыбаком.
Фота Ул. МЯЖЭВІЧА.

Тым большая адказнасць ляжыць на нас. Мы павінны будзем давесці да ведама ўсіх груп нашай арганізацыі, усіх яе членаў тое, аб чым гаварылася на сустрэчы ў Мінску. Наша мэта — умацоўваць мір, супрацоўніцтва для таго, каб дагавор паміж СССР і ФРГ не заставаўся на паперы, ажыццяўляўся на справе.

**Антоніа ДЗАБОЛІ (Італія),**
**дэпутат парламента, член таварыства «Італія — СССР»:**

— Кожны, хто ўжо выступаў на форуме ў Мінску, ярка намаляваў сітуацыю, характэрную для сваёй краіны. І вопыт кожнай краіны, кожнага народа — уклад у нашу агульную справу. Вопыт барацьбы за мір італьянцаў даручана перадаць тут мне і мэру горада Мардзабота Джавані Батанелі. Усю вайну мы змагаліся супраць фашызму са зброяй у руках. Мяняюцца часы, мяняецца зброя. Цяпер наша мэта — барацьба за мір.

Сустрэча, якая адбываецца ў Мінску, яшчэ раз пацвярджае тую думку, што дэмакратычным сілам усяго свету неабходна аб'яднацца ў барацьбе за мір, у барацьбе за ліквідацыю ўсіх ачагоў вайны.

**Джавані БАТАНЕЛІ дапаўняе:**

— У 1944 годзе фашысты знішчылі 1 843 чалавекі толькі ў адным гарадку Мардзабота. І нам асабліва блізкія пакуты савецкіх людзей у час гітлераўскай навалы. Мы чулі, што Мінск быў амаль поўнасцю разбураны. І мы прыемна здзіўлены тым, што ўбачылі тут сёння. Нават пры першым знаёмстве відаць, што гэты горад аднаўляўся з улікам інтарэсаў чалавека. Горад пабудаваны так, каб заявіць аб новым грамадстве без усякай сенсацыі.

**Антоніа ДЗАБОЛІ:**

— Гэта ўражанне чалавека, які ўпершыню прыехаў у ваш горад і наогул у вашу краіну. Я ж, асабіста, не першы раз у Савецкім Саюзе, хаця ў Мінску першы раз. Я сам з Мілана. Гэта вялікі індустрыяльны сучасны горад. І ў гэтым сэнсе яго можна параўнаць з Мінскам. У той жа час Мінск карэнным чынам адрозніваецца ад Мілана нават па першым уражанні. Сама атмасфера тут як бы напоўнена пастаянным стварэннем, а не толькі спажываннем. І ў гэтым надзейная ўстойлівасць, упэўненасць у заўтрашнім дні, аптымізм, які адлюстраваны на тварах мінчан. Людзі, якіх мы бачылі, надзейна абаронены ад нястачы і галечы. І гэта ўсяляе ў іх упэўненасць.

І яшчэ адно ўражанне, якое прыемна здзіўляе нас. Мы не ўбачылі тут кантрастаў: ні таго лоску на адным полюсе і галечы — на другім, з якімі адразу сутыкаешся ў буржуазным горадзе.

Пачуццё прастаты і ўпэўненасці напаўняе паветра вашага горада—чыстага, прасторнага, не мітуслівага, пазбаўленага ад назойлівай рэкламы і ненасытнага спажывальніцтва.

**Хайнрых БРУН (ГДР),**
**прафесар факультэта журналістыкі Лейпцыгскага універсітэта, старшыня акруговага праўлення таварыства германа-савецкай дружбы:**

— Трагедыя беларусаў, якія страцілі ў апошняй вайне кожнага чацвёртага чалавека, я разглядаю як сваю асабістую трагедыю. Мае бацькі таксама сталі ахвярай фашызму. Іх закатавалі нацысты ў канцлагеры. Як сваё асабістае я перажываю і тую радасць, якая ахоплівае кожнага, хто бачыць ваш горад упершыню. Мы ведаем, што ён быў разбураны. Тым больш здзіўляе стваральная праца, якая вядзецца ў вашым горадзе. Пастаяннае абнаўленне, пастаяннае амалоджванне — самая характэрная прыкмета беларускай сталіцы.

Маладосць горада і ў яго людзях. На вашых вуліцах вельмі многа моладзі нават цяпер, калі ў студэнтаў пачаліся канікулы. Я жадаю жыхарам вашай сталіцы, як і ўсёй Беларусі, вечнай маладосці і трывалага міру.

## Паэтычная паверка

Алесь БАЖКО

# СУПРАЦЬСТАЯННЕ ЛЕТА

●

Хто гаварыў, што мой народ глухі
Да брацкіх моў і грэбуе сябрамі.
А хто праклаў пасля вайны шляхі
У іх краіны! Хто ад нас «Зубрамі»
Вазіў суседзям радасць на засеў
І назамен нічога не прасіў!
Мы — людзі працы, наш Савецкі
край!
Мы толькі тым нідзе не патуралі,
Хто ад святла хаваецца, як крот,
І пра вайну скуголіць з году ў год.
Так і жывем: ля кожнае страхі
Шукаем дружбы нават за марамі.
Да брацкіх моў народ мой не глух!
І, як свабодай, даражыць сябрамі.

●

Лес для мяне быў бацькам у вайну,
Хаваў ад смерці, гадаваў, вучыў...
Ды час няўмольны і яго крануў.
Зірнеш на сосны, міма ідучы,
Пні ў медных латах, як званы,
гудуць.
А на чубах з вясны, як на бяду,
Сухое сучча — шчоткаю да хмар.
Кранеш камель — ляціць ігліца ў
твар
З густых, шырокіх ды сухіх галін,
І мне баліць...

●

Не падсякайце на шляху бяроз,
Няхай калышуць золак новых дзён.
Хто пад яго напевы з жытам рос,
Таму і шлях цяпер далей відзён.

●

Дуб у бары не мірыцца з падлескам.
Вакол яго — адны карчы ды мох,
і маладняк бяскроўны, як на
фрэсках...
А мы ўбачым дуб—і хілімся да ног.
Гатоў і я асілку пакланіцца,
Але спярша зірну на маладняк,
І там, дзе ён не можа ўверх
прабіцца,
Ссяку дубняк.

●

Стары цыган калісьці мне казаў:
«Мы, сокал, возім гора на вазах,
Таму нідзе прыстанку не знайшлі...»
Зямля мая! Хоць сонцам ашчасліў
Маіх сяброў, што некалі ў лясах
Далі мне прагу да жыцця ў пасаг
І навучылі песняй даражыць.
Мне і цяпер цыганскія вазы
Начамі сняцца—выскачыш, глядзіш
На бацькаў плот, палеткі, маладзік,
Ідзеш зацішку ля ракі шукаць —
А гэта сосны ля дарог скрыпяць
Па грудзі ў жыце ці сухой раллі...
Яны і песню новую далі.

●

На што хлусіць: у плузе мой Пегас
На панскім полі да вайны звячэў.
Але са скрыпкаю яшчэ не раз,
Калі ў дарозе не самкну вачэй,
Прыйду, сябры, у адведзіны да вас.

●

Перакаці—трава... у нас яе няма.
Мы канюшыну падсявалі ў жыта,
Каб на палях, як ціскане зіма,
Расло яно прывольна, самавіта.
А як падсеяць хлопцаў, што змала
Цураюцца палеткаў і сяла!

●

На кожным дрэве — да вяршынь
сукі.
А мы за іх чапляемся, сярдуем
І ля камлёў з гарачае рукі
Спракон вякоў з сякерамі калдуем.
Камлі за ўсё ў адказе і цяпер,
Бо на сукі яшчэ не прыпаслі сякер.
А дрэва пела б. Дрэва будзе пець,
Калі адчуе, што на ім змала
Сякуць сукі, не ранячы ствала.

●

Караць мы ўмеем —я кажу пра нас,
Пра інжынераў чалавечых душ.
А хто памог «падсуднаму» хоць раз!
Жыві сто год, а ярлыка не руш,
Пакуль ён сам з цябе не ападзе.
А час ідзе...

●

Ствол без галін не выструніць да
хмар.
Ды без ствала не вырасце і голле.
А сілу ім дае зямля
І моцны
корань.

●

На скрыжаванні — чарада рабін.
І раптам — надпіс: «Сцеражыся
мін!»
Няўжо вайна яшчэ збірае плён!
А хто ж тут сеяў канюшыну, лён!
Хто пасадзіў рабіны! Чалавек!
Вайна яму была не ў галаве —
Араў акопы, засяваў вясну,
Пакуль агонь у твар не паласнуў...

## ВІНШУЕМ ТАВАРЫША



Шаснаццаць гадоў працуе ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» Анатоль Канстанцінавіч Сапетка. Працуе намеснікам адказнага сакратара. Кожны нумар «ЛіМа» для яго—прыемны, хоць і не дужа лёгкі клопат пра тое, каб газета своечасова і рытмічна праходзіла друкарскі працэс, мела прыстойнае, адметнае ад іншых перыядычных выданняў знешняе аблічча. Рукою Анатоля Канстанцінавіча робяцца шмат якія ілюстрацыі да твораў, што друкуюцца ў газеце, маляваныя загалоўкі, застаўкі, канцоўкі і г. д.

Шаснаццаць гадоў—гэта толькі «ЛіМ». А яшчэ за плячыма — Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, «Зорька», шматгадовая афарміцельская работа. Як мастак-графік, член Саюза мастакоў Беларусі, Анатоль Сапетка праілюстраваў дзесяткі кніг, шмат разоў удзельнічаў у выстаўках.

Наш сціплы таварыш быў актыўным удзельнікам Мінскага антыфашысцкага падполля ў часе Вялікай Айчыннай вайны. Давялося яму паспытаць засценкі гестапа, перажыць гібель блізкіх.

Пра ўсё гэта мы нагадваем сёння, выказваючы свайму таварышу шчырае слова павагі і добрыя пажаданні ў сувязі з яго 60-годдзем.

## МАЛЮЮЦЬ ДЗЕЦІ ЯПОНІІ

Юныя мастакі Брэсцкага дома піянераў (кіраўнік М. Талмачоў) падтрымліваюць цесную сувязь з экіпажам парахода, які носіць імя «Брэст». У мінулым годзе яны адправілі на параход больш як 50 сваіх работ.

Экіпаж парахода, які робіць рэйсы ў японскія порты, у адным з іх, Ніігата, перадаў малюнкі брэсцкіх школьнікаў намесніку мэра горада пану Сана. Затым яны былі выстаўлены ў выставачнай зале муніцыпалітэта ў вежы «Японскае мора».

Японскія дзеці не засталіся ў даўгу і з чарговым рэйсам савецкага парахода адправілі свае малюнкі. Цяпер яны экспануюцца ў Брэсцкім мастацкім салоне. Выстаўка «Малююць дзеці Японіі» прыцягнула ўвагу брэстчан.

Б. АРКАДЗЬЕЎ.

НА ЗДЫМАЧНЫХ ПЛЯЦОЎКАХ



Зараз прагучыць каманда: «Матор!»—і на стужцы замацуецца адрэпеціраваны момант будучага фільма. Злева направа—рэжысёр А. Спешнеў, аператар Ю. Марухін і яго асістэнт Г. Хлабыстаў.

Фота В. БАРАНАВА.

# ХРОНІКА ТРОХ ВЕЧАРОЎ

НА СПІНКАХ крэслаў пакінуты каляровыя пледы, сям-там стракацяць вокладкі часопісаў і праспектаў — салон самалёта пусты, аднак, відавочна, абжыты пасажырамі. Здаецца, яны скарысталі пасадку ў прамежным аэрарысталі з пасадкі ў прамежным аэрапорце і зараз прагульваюцца дзесьці непадалёку. Толькі прайшоўшы між здвоенымі радамі крэслаў да самага канца, бачыш асвятляльную апаратуру, накладзеныя на падлогу рэйкі, кінакамеру на вазку. Вось гэта і парушае ілюзію верагоднасці, нагадвае зноў, што салон самалёта «Боінг-707» — дэкарацыя ў павільёне кінастудыі «Беларусьфільм». Тут здымаецца мастацкая кінакарціна «Хроніка ночы».

Паўгадзінны перапынак скончан. Ля кінакамеры завіхаецца аператарская група з Юрыем Марухіным на чале. За рабочым столікам з мікрафонам займае месца рэжысёр-пастаноўшчык лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Аляксей Спешнеў. Ужо стала прывычным — напісаўшы сцэнарый фільма, ён працягвае працаваць над ім як рэжысёр.

За сённяшнюю змену паспелі ўжо адзняць пасадку ў самалёт. Гэтым рэйсам з еўрапейскага аэрапорта на афрыканскі кантынент вылятаюць в'етнамская дзяўчына Туан-Хонг, маўклівы амерыканец, жонка кіраўніка адной маладой афрыканскай дзяржавы мадам Клео, бізнесмен Сцюарт з жонкай, сівы пан з дзецьмі, група хіпі са сваёй правадыркай Габі, турысты, чыноўнікі... Сярод пасажыраў—двое нашых суайчыннікаў: хірург Глеб Чухнін і карэспандэнт Света Талмачова. Пад рукой у Светы фотаапарат, пішучая машынка—«салдат, які не расстаецца са сваёй зброяй»,—гаворыцца пра яе ў сцэнарыі. Да таго ж яна—цікавы, бескампрамісны чалавек. І эфектная жанчына. «Вы для мяне адкрыццё»,—прызнаецца пазней Чухнін. А пакуль...

Чухнін:—Вас спальвае азарт, Света... Але які?

Света:—Прафесійны... Адчуваю неадчэпную патрэбу адлюстраваць усе адценні «чароўнага» свету...

Кінаактрыса Джэма Фірсава і акцёр маскоўскага тэатра імя Маякоўскага Анатоль Рамашын даводзяць дыялог да канца і паўтараюць зноў. Рэжысёр дамагаецца ад выканаўцаў патрэбнага стаўлення да сказанага, вернай інтанацыі. Нарэшце, усё як быццам адпрацавана—здымаецца дубль першы. Пасля яго зноў заўвагі, удакладненні ў арганізацыі плана—і наступны дубль. Яшчэ адзін—па прапанове аператара. Яшчэ адзін—па просьбе актрысы. Яшчэ — па патрабаванні рэжысёра. Усё ідзе, як павінна быць у такіх выпадках. Пад дзеяннем асвятляльных прыбораў атмасфера ў вузкім салоне лайнера напальваецца ў літаральным сэнсе слова.

Апошні дубль! Змена скончана. Вось калі ў абліччы, у жэстах рэжысёра і аператара выступаюць прыкметы звычайнай, цяжкай стомленасці, якая не абмінае нікога.

— Таварышы, паспяшайцеся!—папярэджвае чыйсьці голас.—Аўтобус адзін на ўсіх, а ў Рамашына ў ноль—дваццаць дзве поезд на Маскву.

Зараз без дваццаці дванаццаць ночы. Па прыёмніку гучыць рэпартаж з Барселоны. Гурты падагрэтых віскі шатландцаў, збіваючы людзей з ног, зносячы бар'еры, урываюцца на футбольнае поле. Яшчэ адно адценне «чароўнага» свету...

У папярэднім фільме Аляксея Спешнева «Чорнае сонца» расказана гісторыя палітычнага забойства. Гэта фільм аб вызваленчым руху ў Афрыцы і аб трагедыі прагрэсіўнага афрыканскага лідэра. Яго забойства падрыхтавалі асобы, якія перасякалі ў самалётах кантыненты, свабодна падарожнічалі з краіны ў краіну. І іх немагчыма было распазнаць сярод іншых людзей... І над тым фільмам працавалі рэжысёр-пастаноўшчык Аляксей Спешнеў, аператар Юрый Марухін, мастак Яўгеній Ігнацьеў, гукааператар Барыс Шангін—тое ж самае творчае ядро, што і на фільме «Хроніка ночы».

□

— Так, мы працягваем працаваць разам і распрацоўваць інтэрнацыянальную тэму,—гаворыць А. Спешнеў.—Зараз ва ўсім свеце ў кінематографе і на тэатральнай сцэне палітычныя сюжэты прыкметна адцясняюць інтымныя драмы. І гэта натуральна. Ленін казаў: «Палітыка—гэта лёс мільёнаў». Ці могуць людзі заставацца раўнадушнымі да свайго лёсу?

У «Хроніцы ночы» будзе развіты вопыт фільмаў «Масква—Генуя» і «Чорнае сонца», але на новай аснове. Новая тэма і матэрыял кожны раз дыктуюць іншыя літаратурныя і рэжысёрскія вырашэнні. А гэта падахвочвае да творчага і тэхнічнага эксперыменту. Напрыклад, мы змяняем памеры шырокага экрана ў залежнасці ад сэнсавага зместу сцэн.

Галоўныя падзеі ў фільме адбываюцца на борце самалёта. Такім чынам, амаль цалкам вытрымана класічная формула трох адзінстваў — часу, месца і дзеяння. Аднак замкнёная прастора паветранага карабля ў палёце не дае прамога выйсця ў знешні свет. Знойдзена выйсце ўнутранае. У новым фільме мы імкнемся дасягнуць прастораавых (і не толькі прастораавых!) суадносін сюжэтнага дзеяння з «фільмам у фільме». У чым сутнасць гэтай сувязі, можна ўбачыць зараз жа на здымачнай пляцоўцы.

Сёння на пляцоўцы ў цэнтры ўвагі новыя асобы: тэрарысты Луіс (Яфім Капялян) і Рыхарда (Арніс Ліцыціс). Рыхтуюцца да здымак эпізоду са зброяй, якую тэрарысты атрымаюць для захопу самалёта. Але спачатку просяць даць кінакадры на экран у салоне для турыстаў. Кінапраграмы па вечарах—частка авіясервіса. Пасажыры, якія знаходзяцца на вышыні некалькіх кіламетраў ад зямной прасторы, далучаюцца да начных пацех зямлі...

...У вузкім промні з праектара Луіс і Рыкарда дзелавіта вымаюць з сумкі рэвальверы, аўтаматы, бомбу. Малюнкі начных пацех зямлі часткова праецыруюцца, як на экран, на іх адзенне, адбітае святло шалёнага свету кладзецца блікамі на іх твары.

Зброя пушчана ў ход! Хутка драма з кабіны пілота перакінецца ў пасажырскі салон. Згодна з паваротамі ў развіцці сюжэта, зброя тройчы пяройдзе з рук у рукі, перш чым будзе надзейна схавана ад забойцаў, анархістаў і вар'ятаў. А на «экране ў экране» тым часам будзе ісці сваёй чаргой хроніка начнога жыцця зямлі, і карціны свету вычварна пераплятуцца з падзеямі начнога рэйса паветранага карабля.

Па-рознаму адаб'ецца гэты рэйс на пасажырах: адным дасць доказы слушнасці іх поглядаў, у другіх паскорыць нялёгкі працэс перагляду былых пазіцый, у трэціх пасее зерне сумнення, чацвёртых, на жаль, не навучыць нічому.

Звыш пяцідзесяці мінут экраннага часу займе драматычны пералёт. У пераліку на здымачныя дні—гэта каля трох месяцаў працы ў павільёне. Потым—здымкі ў Шарамецьеўскім і Батумскім аэрапортах. Але гэта потым.

А пакуль скончыўся яшчэ адзін дзень работы над новым фільмам. На тросавых умацаваннях і апорах спачывае да чарговых здымак дэкарацыя. У кабінеце рэжысёра ўдакладняюцца планы наступнага дня. А ў пакоі насупраць Яфім Капялян разглядае фотапробы акцёраў, з якімі яму давядзецца сустрэцца на здымках.

І. ЗАЯЦ.

## ПАМЯЦІ ПАЭТА-АКАДЭМІКА

Прадстаўнікі грамадскасці Мінска сабраліся 11 ліпеня ля дома № 36 па вуліцы Карла Маркса. Тут адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі, прысвечанай памяці вядомага беларускага паэта, таленавітага вучонага, акадэміка Акадэміі навук БССР П. Глебкі.

Цёплыя словы ўдзячнасці і падзякі паэту-вучонаму выказалі народны пісьменнік БССР, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР К. Атраховіч (Кандрат Крапіва), народны паэт Беларусі П. Броўка, першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. Шамякін, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР В. Бандарчык, доктар філалагічных навук, прафесар Ю. Пшыркоў, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР М. Суднік.

БЕЛТА.



## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ

Перад выездам на гастролі ў Маскву Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паказаў прэм'еру спектакля «У ноч зацьмення месяца» па п'есе Мустая Карыма (пераклад з башкірскай мовы Ул. Караткевіча). Пастаноўку спектакля ажыццявіў заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР Ц. Кандрашоў. Рэжысёр А. Андросік. Мастацкае афармленне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР А. Грыгар'янца. Кампазітар А. Янчанка.

На здымку — сцэна са спектакля. У ролі Шафак — заслужаная артыстка БССР Л. Давідовіч, Ак'ягета — артыст Ю. Авяр'янаў.

Фота Ул. КРУКА.



# АПОШНІ КІЛІШАК?

*РЭПАРТАЖ З ЛЯЧЭБНА-ПРАЦОЎНАГА ПРАФІЛАКТОРЫЯ*

На аўтобуснай станцыі да мяне падсеў пасвяточнаму прыбраны мужчына і нясмела спытаў:

— Пазналі мяне?

Я трохі сумеўся — чалавек падаўся мне незнаёмы. Мужчына пачырванеў:

— Учора мы гутарылі з вамі ў кабінеце нампаліта Мікалая Якаўлевіча Кабанава.

Так, так, цяпер я ўспомніў. Але ж не дзіва было яго не пазнаць. На тым, учарашнім, былі шэрая куртка і такія ж штаны. Гэты ж быццам маладзейшы за таго: твар свежы, чыста паголены, і вочы святлейшыя, не могуць схаваць радасці, што рвецца знутры.

Паўстала ў памяці і няхітрая гісторыя яго. Інжынер з Мінска, працаваў прарабам. Спачатку выпіваў «як усе». А неўзабаве, нечакана для сябе адчуў, што без кілішка абысціся ўжо не можа. Далей — болей...

— Разумееце, раніцой прачнуся, адна думка ў галаве — выпіць. Вазьму сто пяцьдзесят, дзве-тры гадзіны адчуваю сябе чалавекам. Потым зноў пачынаюць рукі трэсціся, не магу алоўка трымаць. Бягу, шукаю, дзе выпіць... З аднаго прадпрыемства выгналі, з другога, трэцяга...

Да нас падышла высокая бялявая жанчына.

— Знаёмцеся, жонка. Па мяне прыехала, — усміхнуўся мужчына.

У аўтобусе яны сядзелі, узяўшыся за рукі, як закаханыя. Я ўспомніў, што Мікалай Якаўлевіч у кожнага, хто прыходзіў з абходным лістком, цікавіўся сямейнымі справамі. Цікавіўся не без падставы. У многіх насельнікаў лячэбна-працоўнага прафілакторыя для алкаголікаў сем'і разбіты. У гэтага лёс аказаўся шчаслівейшы, і я шчыра парадаваўся за яго...

У ПРАФІЛАКТОРЫІ, дзе па рашэнні народных судоў прымусова лечаць алкаголікаў, ёсць нямала такіх, што трапілі сюды другі, трэці і нават чацвёрты раз.

Эге, такое відаць тут лячэнне, калі вяртаюцца, — скажуць скептыкі. Адзін з «пансіянераў», з якім мне давялося гутарыць — немалады дзядзька з вострым чырвоным тварыкам і слінявым ротам скардзіўся:

— Два гады я павінен тут гібець, а хто дасць гарантыю, што не буду больш піць?

Бачыш, дай яму гарантыю. Сам ён тут не пры чым... Між іншым, не ён адзін такой думкі. Амаль ніхто з пацыентаў прафілакторыя вінаватым сябе не лічыць. Алкаголікам — таксама. А што трапілі ў ЛПП, дык гэта таму, што жонка благая, бацькі чэрствыя, начальства на рабоце нячулае. Яны і пасадзілі...

Мікалай Якаўлевіч паказаў мне пісьмо, якое адзін з «пацыентаў» напісаў сваёй маці і якое тая пераслала кіраўніцтву прафілакторыя. Гэткага цынізму, гэткага бруду я ніколі не чуў і мабыць не пачую. Дазволіць сабе такія словы ў адрас жанчыны, тым больш маці, можа толькі вылюдак, які даўно згубіў чалавечае аблічча. Прычына ж нянавісці тая, што маці, аказваецца, не магла больш глядзець, як коціцца ўніз яе сынок, і падала заяву, каб яго прымусова лячылі.

Мікалай Якаўлевіч — вельмі сімпатычны чалавек, былы камсамольскі, партыйны работнік расказаў мне, што, атрымаўшы гэтае пісьмо, ён склікаў сход атрада, за якім замацаваны той пісака, і прачытаў на сходзе спачатку верш Ясеніна «Ліст да маці», а пасля другое пісьмо, не называючы прозвішча аўтара. Той сядзеў не падымаючы вачэй.

Я слухаў нампаліта і думаў пра тое, якое трэба мець сэрца, як моцна любіць людзей, якім трэба быць, нарэшце, проста апантаным, каб вытрымліваць, каб важдацца з гэтай публікай (у ЛПП, як правіла, трапляюць людзі асацыяльныя, людзі дэградыраваныя). Я сказаў «важдацца». Гэта, відаць, не тое слова, не тое паняцце. Трэба кожнага выслухаць, кожнага падбадзёрыць, прасачыць, каб у тэрмін паеў, на чыстым спаў, не хварэў (кожны новапрыбыўшы спачатку трапляе ў стацыянар, дзе яго даследуюць і падлечваюць; галоўны ўрач Віталій Ціханавіч Сібірскі прадэманстраваў мне такія дадзеныя: восемдзесят працэнтаў алкаголікаў прыязджаюць з хворай пячонкай, дзевяноста — з гастрытам, шэсцьдзесят — без зубоў).

Я не збіраюся даводзіць, што ЛПП — дом адпачынку. Тут трэба працаваць. Усім. Абавязкова. І выпрацоўваць норму (дарэчы, многія нядрэнна зарабляюць). І высокая сцяна з калючым дротам ёсць у наяўнасці, і вартавыя вышкі. Хаця вартаўнікі называюцца кантралёрамі і не носяць зброі...

Цяпер вернемся да пытання, якое мімаходзь ужо закранулі — пытання эфектыўнасці ЛПП. Першае, што я спытаў у начальніка прафілакторыя Мікалая Гаўрылавіча Крутскіх — высокага мажнага чалавека з поўным усмешлівым тварам — які каэфіцыент карыснага дзеяння яго ўстановы?

Твар начальніка пасур'ёзнеў, ён крыху памаўчаў, паціснуў плячыма:

— Чалавек — не машына, каэфіцыент карыснага дзеяння якой можна вызначыць дакладна. Прафілакторый існуе сем гадоў. Мы ведаем шмат людзей яшчэ з першага нашага «выпуску», якія не бяруць у рот хмяльнога і па гэты дзень. Ёсць такія, што не п'юць па два, тры, чатыры гады, а потым зрываюцца. Ёсць, чаго грэх хаваць, і такія, што напіваюцца адразу ж, як выйдуць за вароты ЛПП.

Мы доўга гутарылі з Віталіем Ціханавічам Сібірскім, чалавекам улюбёным у сваю справу. Цікава, што скончыў ён Ленінградскі медыцынскі інстытут педыятрыі. Некалькі гадоў працаваў педыятрам, і нечакана для сябе захапіўся справай, якой служыць зараз. Праўда, прызнаўся мне, што бываюць цяжкія хвіліны — б'ешся, б'ешся за чалавека, а вынік — нуль. Вось тады і мільгане крамольная думка — ці не вярнуцца назад да дзетак, лячыць бранхіты і насмаркі.

Можна зразумець яго. Хворы на алкагалізм — не звычайны хворы, які заўсёды прагне вылячыцца. Тут здараецца, і даволі часта, што хворы лічыць урача не саюзнікам, а ворагам і гаворыць проста ў вочы, што, маўляў, дарэмна стараешся, усё роўна буду піць.

На вялікі жаль, медыцына яшчэ не знайшла панацэі ад алкагалізму і хаця ў прафілакторыі ўжываюць самыя сучасныя прэпараты і метады — антабус, апамарфін, гіпнатыю, аўтагенную трэніроўку — усё-такі поспех залежыць перш за ўсё ад самога хворага, ад яго свядомасці, сілы волі.

— Нялёгка ў гэтым прызнавацца, — гаворыць Віталій Ціханавіч, — але пакуль што лячэнне алкагалізму — адзін з самых адстаючых участкаў медыцынскай навукі. Патрэбны аб'яднаныя намаганні спецыялістаў розных галін — псіхолагаў, генетыкаў, урачоў, каб дабіцца больш эфектыўных вынікаў. Я мару аб тым часе, калі нам на дапамогу прыйдуць ЭВМ, на якіх можна будзе сістэматызаваць, аналізаваць усе аспекты, звязаныя з захворваннем на алкаголь...

Пасля гэтага трохі песімістычнага маналога, я пабываў на гіпнатычным сеансе, які праводзіў Віталій Ціханавіч з хворымі. Што і казаць, відовішча ўражлівае.

Пасля таго, як пацыентаў ахутаў гіпнатычны сон, урач пачаў гаварыць аб шкодзе п'янства, аб тым, што нясе яно чалавеку, што трэба ратавацца, ратавацца ад гарэлкі.

— Вы адчуваеце, як агідна, як страшна агідна пахне гарэлка, — гаворыць ён паволі і падносіць кожнаму маленькую мензурку з кропляй гарэлкі. Яго падапечных ледзь не ў сутаргах пачынае падкідваць на ложках, іх проста вывarочвае...

— Здарова, — кажу я пасля сеанса. — Гэтыя відаць ужо закажуць дзесятаму.

— На жаль, умоўны рэфлекс не вечны, — уздыхае Віталій Ціханавіч. — Трэба яго час ад часу паднаўляць. А хто будзе?

ВОСЬ ТУТ і адкрываецца адна з нявырашаных праблем барацьбы з алкагалізмам. Скажам адразу, у карысці лячэбна-працоўнага прафілакторыя сумнявацца не прыходзіцца. Калі са ста алкаголікаў зусім вылечылася пятнаццаць — дваццаць (а з тымі, хто, паводле выразу медыкаў, «сацыяльна палепшыўся», г. зн. п'е, але ў меру, — лічбы яшчэ большыя), дык і гэта вялікая заваёва. Але магло быць значна лепш...

Справа ў тым, што чалавек, які выйшаў за вароты ЛПП, па сутнасці, больш нікога асабліва і не цікавіць. Ён поўнасцю прадастаўлены самому сабе. А яму трэба падумаць і аб кватэры, і аб рабоце, з якой яго звольнілі.

М. Кабанаў даў мне прачытаць пісьмо аднаго з былых насельнікаў прафілакторыя, пісьмо, адрасаванае таварышу, тэрмін якога яшчэ не зышоў. Чалавек гэты з горыччу піша, што абышоў у Мінску некалькі прадпрыемстваў і нідзе яго не хацелі браць, як толькі даведваліся адкуль прыбыў.

Добра, калі ў чалавека моцны характар і моцная воля (якасці не вельмі ўласцівыя людзям, пра якіх ідзе гаворка). А калі разгубіўся, калі паддаўся адчаю? Чакай яго зноў у ЛПП.

Да самага апошняга часу міліцыя афармляла справы на злосных алкаголікаў для перадачы ў суд і наступнага прымусовага лячэння па заяўках і грамадскіх арганізацый, і сваякоў хворага. Не часта, але ўсё ж бывала, што сваякі кіраваліся пры гэтым і суб'ектыўнымі меркаваннямі. У такіх выпадках зваротная дарога ў сям'ю аказвалася адрэзанай.

Ці не лепей было б, каб лёс хворага чалавека вырашала грамадскасць, прадпрыемства, дзе ён працуе. Каб, адправіўшы яго лячыцца, не парывалі з ім сувязі, чакалі яго.

І яшчэ. Кажуць, што чалавек, які захацеў выпіць, вып'е, як ты яго ні пільнуй. Гэта і праўда, і не. Шмат што залежыць ад маральнага клімату, у якім жыве чалавек.

Я разгаварыўся ў прафілакторыі з Генадзем П., які трапіў сюды другі раз. Пасля першага лячэння тры гады не браў у рот. Летась у яго нарадзілася дзіцё. Радасны прыйшоў у цэх і пахваліўся — сын! З усіх бакоў закрычалі — трэба адзначыць! Назаўтра прынёс гарэлку. Селі, разлілі па шклянках. Сябе Генадзь абмінуў. На яго накінуліся, маўляў, не будзеш ты, не будзем і мы. Чалавек пачаў умольваць: «Хлопцы, вы ж ведаеце, мне нельга». Хлопцы ў адказ злілі гарэлку ў бутэлькі і падняліся. Давялося Генадзю выпіць. І жыццё скончылася...

Слухаеш такое, і дзіву даешся...

Недзе чытаў я, што ў Эстоніі некалькі гадоў таму было створана таварыства непітушчых. З былых алкаголікаў. Нешта накшталт клуба, куды збіраюцца сем'ямі, п'юць каву, іграюць у шахматы. А галоўнае — члены гэтага клуба заўсёды адчуваюць локаць адзін аднаго. Пільна сочаць, каб ніхто не пахіснуўся, а калі што здарылася, то ўсёй грамадой прыходзяць на дапамогу. Дальбог, не пашкодзіла б нам мець такі клуб ці таварыства, называйце яго як хочаце...

У гэтых нататках я наўмысна пазбягаў, як кажуць, антыалкагольнай патэтыкі. Яе ў нас хапае. Шмат слоў мы гаварылі і гаворым аб шкодзе п'янства, аб шкодзе, якую яно прыносіць грамадству. Ды толькі словы ад частага ўжывання сціраюцца, як медныя пятакі. Бо Васька слухае, ды...

Новая пастанова ЦК КПСС аб барацьбе супраць п'янства мяркуе ўжыванне не толькі слоў. Выдатна!

У МІНСКУ мы развіталіся. Я пажадаў маім новым знаёмым шчасця. Інжынер падзякаваў.

— Трэба пачынаць новае жыццё, — сказаў ён.

Сказаў, здаецца, шчыра...

М. ЗАМСКІ,
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».

